за гэта ўздымалі мы мачэтэ над прастрэлянымі галовамі?.. Хіба за гэта палівалі крывёю пяскі Плая-Хірон?!..

Прамоўца разануў па паплечніках спапяляльным поглядам – тыя дысцыплінавана змоўклі.

– У выніку шараговыя амерыканскія капіталісты перасталі прыязджаць на Выспу Свабоды. Сярод каго нам цяпер праводзіць рэвалюцыйную агітацыю і прапаганду? Адкажыце мне, амігас!.. – Чэ Гевара экспрэсіўна ўзняў рукі і пытальна агледзеў прыціхлых міністраў.

Звон адстрэленых гільзаў усё яшчэ вібраваў у вушах прысутных. З некалі раскошнай бацістаўскай рэстарацыі цягнула падгарэлай сачывічнай пахлёбкай. Словы адважнага камандантэ Чэ спараджалі ў чальцоў урада асцярожную згоду.

Радыкалізм Кастра даўно ўжо палохаў нават яго самых адданых прыхільнікаў. Чатыры месяцы таму Фідэлю неверагодна пашэнціла: самадзейныя дэсантнікі-«гусанас», якія выкінуліся ў Затоцы Свінняў, выявіліся пыхлівымі, п’янымі і баязлівымі няздарамі. Да таго ж, як паведамілі савецкія сябры, большасць грошай, якія Кангрэс ЗША выдаткаваў на аперацыю, бессаромна раскралі ў ЦРУ. У разе высадкі амерыканскіх марпехаў, загартаваных Карэяй і Індакітаем, шанцы ўзброеных сіл Выспы Свабоды раўняліся нулю.

Дый татальны дэфіцыт прадуктаў даводзіў міністраў да роспачы. Адразу пасля захопу Гаваны рэвалюцыянеры павыжыралі харчовыя склады капіталістаў, што тыя трусікі – капусную градку. Хлеб у Гаване даўно знік, не кажучы ўжо пра якіх-небудзь банальных лобстараў. Над выспай у поўны рост паўстаў прывід ваеннага камунізму. А хіба заслужаны змагар за свабоду павінен атрымліваць харчы па картках, бы які-небудзь чысцільшчык ботаў? Ці не лепш на кароткі час замірыцца з амерыканскімі імперыялістамі і агітаваць іх зноў прыязджаць у Гавану, але ўжо не для разбэсты, а для інвеставання ў рэвалюцыю сваіх распрыўкрасных даляраў?.. Дый і на міністраў тых даляраў відавочна бракаваць не будзе!..

– Фідэль утыркнуў сто нажоў у сэрца рэвалюцыі!.. – выгукнуў камандантэ Чэ так пранізліва, што крышталёвая жырандоля пад каланіяльнай ляпнінай злякана цінькнула. – Але ў рэвалюцыі тысячы сэрцаў, і яны калоцяцца ад рамантыкі працы і барацьбы!.. Мы павінны пайсці на тактычнае замірэнне з вашынгтонскімі рэакцыянерамі, каб выйграць час. Наша рэвалюцыя ўзгадуецца тымі варожымі далярамі, бы малады альбатрос, расправіць крылы і паляціць вызваляць усіх прыгнечаных братоў Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі! Неўзабаве сцяг сацыялізму залунае не толькі над Мехіка, Мантэвідэа і Буэнас-Айрасам, але і над Маямі і нават…

За дзвярыма важка рыпнула, і абедзве форткі разляцеліся ад брутальнага ўдару – няйначай як армейскім берцам. Дзвярны праём засланіла мажная постаць камандантэ Фідэля, і ягоны доўгі цень паклаўся на падлогу.

– Што тут адбываецца, таварышы? – шурпатым барытонам пацікавіўся Першы сакратар ЦК кампартыі Кубы.

Таварышы па партыі сарамліва апусцілі вочы ў паперы. Узнікла кароткая прыдушаная мітусня; чальцы ўраду не маглі вызначыцца, што цяпер лепш – заставацца за сталом ці адразу стаць тварамі да сцяны. Фідэль Кастра глянуў у пусты фатэль, дзе звычайна засядаў міністр рэвалюцыйных узброеных сіл Рауль Кастра, прасачыў крывавы пункцір да шафы і сутаргава схапіўся за кабуру.

Чэ Гевара ўскінуў руку – у галаву камандантэ Фідэля сінхронна ўткнуліся аўтаматныя ствалы жаўнераў рэвалюцыі, якія пільнавалі дзверы. Яшчэ двое рэвалюцыянераў на ўсялякі выпадак пацэлілі ў зніякавелых міністраў.

– Ты прайграў, Фідэль, – камандантэ Чэ працягнуў далонь. – Аддай зброю.

Кастра ўмомант наліўся атрутнай крывёй, затупаў і засіпеў, бы раз’юшаны насарог:

– Здраднікі!.. Апартуністы!.. Агенты ЦРУ!.. Я ўсіх вас перастраляю!..

– Ты прайграў, Фідэль, – надзіва спакойна паўтарыў Чэ Гевара, падышоў да бліжэйшага вакна і тэатральным рухам падняў жалюзі.

На плошчы перад палацам вiравала стыхійная дэманстрацыя. Мітынгоўцы, пераважна беспрацоўныя, прастытуткі і хатнія гаспадыні з трушчобаў, тэмпераментна скандавалі «Радзіма альбо смерць!», вымахвалі нацыянальнымі сцягамі, лупілі накрыўкамі ў пустыя рондалі, а некаторыя нават натхнёна падтанцоўвалі ў рытме мамбы.

– Народ не з адшчапенцамі!.. – пасміхнуўся Чэ Гевара пераможна і жорстка. – Народ з намі, сапраўднымі рэвалюцыянерамі-марксістамі!.. І перастраляць гэты народ не атрымаецца нават у цябе!..

Першы сакратар ЦК кампартыі Кубы драўлянымі пальцамі расшпіліў кабуру, выцягнуў «сцечкін» і, не гледзячы на суразмоўцу, працягнуў яму пісталет дзяржальняй наперад.

– Фідэль, мы больш не маем права называць цябе нашым таварышам, – знянацку палагаднеў Чэ Гевара, памуліўся, падміргнуў міністрам і перайшоў да кульмінацыйнага моманту. – Але мы цэнім твае былыя заслугі перад рэвалюцыяй, і таму маем зрабіць адну прапанову, якая табе напэўна спадабаецца!.. Папрашу ў пакой адпачынку!..

Кастра асуджана глянуў на міністраў, пачухаў бухматую бараду і выйшаў ў калідор. Чэ Гевара пасунуўся следам.

– Рэвалюцыя працягваецца, кампаньерас!.. – баявым пеўнем выгукнуў ён. – А цяпер – сіеста!..

* * *

Камандантэ Эрнэста Чэ Гевара паклаў перад камандантэ Фідэлем Кастра Рус нядаўна сканфіскаваны «сцечкін».

– У пісталеце я пакінуў толькі адзін набой. Ты маеш час да апоўначы, каб застрэліцца.

Кастра ніякавата мазануў позіркам па зброі і механічна перавёў вочы на гадзіннік у куце. Малая стрэлка амаль упіралася ў чацвёрку, вялікая падпаўзала да лічбы дванаццаць. Залачоны маятнік у выглядзе кубінскага герба гойдаўся рытмічна і пагрозліва, бы катаўнічы рыштунак.

– А гэта – каб табе прыемней стралялася, – Чэ выставіў на столік пляшку цёмнага шкла са стракатай налепкай, па-інквізітарску пасміхнуўся і ўзбагаціў нацюрморт адкрытай скрыначкай чорных цыгар з залатымі абадкамі. – Твае ўлюбёныя, Фідэль. Усю Гавану аб’ездзіў, ледзьве знайшоў.

– Наш народ ніколі не зразумее майго самагубства, – запэўніў Кастра, але без асаблівай упэўненасці.

– Нашаму народу мы скажам, што ты стаў ахвярай амерыканскага імперыялізму, – супакоіў Чэ. – Цябе пахаваюць у маўзалеі. Такім жа самым, як у Хасэ Марці, толькі яшчэ больш раскошным. Тваім імем назавуць гатункі тытуню, бардэлі для багатых янкі, нованароджаных у трушчобах і нават нядаўна адкрытыя планеты. Не кажучы ўжо пра вуліцы і сабак. Маладыя кубінскія камуністы будуць прысягаць на тваёй магіле вернасці ідэалам, а госці Выспы Свабоды – ускладаць на яе вяночкі.

– Як адрэагуе Масква – ты падумаў? – выцягнуў Фідэль апошні козыр.

– Масква занадта далёка, – парыраваў Чэ з прагматызмам дасведчанага марксіста. – І нават найлепшая ў свеце савецкая медыцына не зможа цябе ўваскрасіць. Дый Мікіта Хрушчоў – чалавек разумны. І ён напэўна

зразумее, што лепш мець справу з жывымі рэвалюцыянерамі, чым з мёртвым героем.

Кастра агрэсіўна варухнуў барадою.

– І хто ж будзе кіраваць нашай рэвалюцыяй пасля маёй смерці? Няўжо ты?

– Давядзецца, – самаахвярна ўздыхнуў Чэ Гевара, зубамі скруціў з пляшкі корак і прыклаўся да рыльца. – А непаганы ром, аднак! Гадоў пяцьдзясят вытрымкі, я так думаю… Давай, за вялікі кубінскі народ!..

– Паслухай, Чэ, – Фідэль зрабіў доўгі глыток, выцер рукавом бараду і пацягнуўся па цыгару. – Няўжо ты сапраўды верыш, што гэты народ можна неяк перавыхаваць? Усё жыццё ў лайне і ў гноі, у гноі і ў лайне!.. А калі таму народу прыносіш на талерачцы вызваленне і паказваеш дарогу да лепшага жыцця, то адразу становішся для яго самым лютым ворагам. Бо ў гноі яму куды больш звыкла, а ў лайне – дык яшчэ і салодка…

– РЭВАЛЮЦЫЯ –
ГЭТА ЗМЕНА ЎЛАДЫ,
А НЕ ЗМЕНА СМАКУ
ЛАЙНА, – БЯЗЛІТАСНА
НАГАДАЎ ЧЭ. – І СЁННЯ ТЫ
Ў ГЭТЫМ ПЕРАКАНАЎСЯ.
УСЁ, ФІДЭЛЬ, БУДЗЬ
МУЖЧЫНАМ, ВЫПІВАЙ
І СТРАЛЯЙСЯ. ТАК ТРЭБА
ДЛЯ РЭВАЛЮЦЫІ.
Я ПРАВЕРУ АДРАЗУ
ПАСЛЯ АПОЎНАЧЫ.

Наступныя тры гадзіны Фідэль Кастра засяроджана смактаў ром, пускаў у столь сінія тытунёвыя колцы і спрабаваў актывізаваць апарат мыслення. У апараце панавала спусташэнне разгрому – панурае, бы мексіканская пустэльня. Уцячы з палону не выпадала: у пакоі не было вокнаў, а дзверы прабіла б толькі гармата. Пракляты апартуніст Чэ ўсё прадугледзеў!..

Калі ў пляшцы засталося менш за палову, Фідэль згадаў: тэлефон! У далёкім закутку Прэзідэнцкага палаца, між іржавымі бляшанкамі, анучнымі вузламі і зламанымі сталамі для «Блэк Джэка», напэўна стаяў адзін з трох тэлефонаў ВЧ-сувязі, якія па распараджэнні Мікіты Хрушчова правялі ў палац былога дыктатара Бацісты. Наўрад ці Чэ Гевара і яго антынародная хунта былі такімі пільнымі, каб адключыць сувязь.

Кастра накручваў дыск да абсалютнага здранцвення пальца: Масква не адказвала. Ад тэлефона валіў дым, ад Фідэля валіла пара, але апарат здзекліва маўчаў. Нарэшце, калі пляшка была амаль выпітая, а распухлы палец перастаў трапляць у лунку дыска, прыязны жаночы голас у слухаўцы паведаміў, што Мікіта Сяргеевіч спіць.

– Гэта я, камандантэ Фідэль Кастра, правадыр кубінскай рэвалюцыі! – зароў асуджаны да самагубства. – Тэрмінова пабудзіце таварыша Хрушчова і скажыце, што…

Са слухаўкі пачуліся незнаёмыя каманданту Фідэлю словы «чарнажопы» і «ахуеў», але па хуткім часе на іх наклаўся знаёмы брынклівы тэнар:

– Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў слухае.

– Мікіта!.. Аміга!!.. Нас прадалі!!!.. Праклятыя янкі перакупілі ўсіх кубінскіх рэвалюцыянераў!.. Усе мае былыя паплечнікі выявіліся апартуністамі, рэнегатамі і рэстаўратарамі капіталізму!..

– Фідэль, у нас в Маскве тры ночы, – раздражнёна пазяхнуў Мікіта Сяргеевіч. – Затэлефануй мне заўтра а дзясятай раніцы. А яшчэ лепш а палове на сёмую вечара. Мы ж, разумееш, да Дваццаць другога з'езду партыі рыхтуемся…

– Мікіта!.. Ратуй!.. У нас тут сапраўдная катастрофа!.. – Кастра выплехнуў у рот усё, што заставалася ў пляшцы і ў роспачы бразнуў ёй аб сцяну. – Усё страчана, усё!.. Я пад хатнім

арыштам!.. Вораг народа Эрнэста Чэ Гевара загадаў мне да апоўначы застрэліцца!..

– Камандантэ Чэ? – млява зацікавіўся Хрушчоў. – Які, аднак, жвавы малец. Далёка пойдзе!.. Ну і што мне цяпер загадаеш рабіць?

Перад вачыма Фідэля недарэчна ўзнік хударлявы твар Чэ ў нясвежай берэтцы, з неахайнай падлеткавай бародкай… Ага, будзеш ты, прадажная амерыканская курва, кіраваць маёй Выспай Свабоды.. Я табе зараз пакажу смак лайна!..

– Мікіта, аміга, у імя нашага сяброўства прашу: тэрмінова нанясі ядзерны ўдар па Вашынгтону! Тэр-міно-ва!!!.. Можаш адным махам і па Гаване – я ўсё адно ўжо труп, а здраднікаў мне не шкада!!!..

– Слухай, Фідэль, не дуры галавы, ідзі спаць, – выдыхнуў Першы сакратар ЦК КПСС. – Ты што, п'яны там у сваёй Гаване? Ну, тады тым больш. А таварышу Эрнэсту Чэ Гевару перадай, што я асабістым загадам забараніў табе страляцца. З гэтым мудаком я заўтра разбяруся, як вызвалюся. Буэнас ночас, як гаворыцца ў кубінскіх таварышаў!..

**Глава 12**

Белы мячык узляцеў над зялёным полем і распусціўся ў блакіце нябёсаў. Ален Далес разгублена апусціў клюшку. Стэсі Радзівіл узняў голаў, выглядаючы магчымую траекторыю.

– Гольф, містар Далес, усяго толькі гульня, а не спецаперацыя, – нагадаў ён. – А мячык – спартовая фішка, а не шпегунскі самалёт U-2, які трэба запусціць як мага далей. Разнявольцеся і атрымлівайце ад жыцця асалоду!

– У гульнях мы ўсе – багі, – пахмурна адпарыраваў дырэктар ЦРУ. – Выйграем партыі, шпурляем людзей, бы тыя фішкі… А калі самі ляцім як мага далей, то толькі здзіўляемся – а куды ж тая асалода падзелася?

– У шмат якіх спецслужбоўцах загінулі сапраўдныя філосафы і інтэлектуалы, – з ледзь заўважнай іроніяй абагульніў Станіслаў Альбрэхт.

Травяная пляцоўка лашчыла вока ўсімі адценнямі смарагду. Па-над травою палала вечаровае сонца, тлустае і вясёлае, бы немаўля. Побач узвышалася вычварная металёвая вежа з гіганцкімі крыжамі антэнаў – камандная рубка авіяносца «Форэстал», на палётнай палубе якога і рассцілаўся штучны газон.

Сам авіяносец у эскорце эсмінцаў і субмарын стаяў у Мексіканскай затоцы, блізка тэрытарыяльных водаў Кубы. Набярэжная Гаваны выдатна праглядалася ў марскую оптыку: бялюткія дамкі ў залацістай смузе. Палубная авіяцыя «Форэстала» магла за якую гадзіну раструшчыць кубінскую сталіцу ўшчэнт – разам з яе бардэлямі, казармамі, трушчобамі і Прэзідэнцкім палацам. Аднак самалёты хаваліся ў падпалубных ангарах, а на палётнай паласе праходзілі паказальныя спаборніцтвы па ўлюбёнай гульні эксплуататараў і джэнтльменаў.

Над палубай флагмана Другога флоту ЗША ужо колькі разоў пралятаў верталёт Мі-4 без апазнавальных знакаў. У якімсьці кабельтовым нерухоміла два вартавых кацеры пад кубінскімі сцягамі, радысты каторых перамаўляліся між сабою выключна расійскімі мацюгамі. Аднак Кенэдзі, які ўвесь час знаходзіўся ў каманднай рубцы, з невядомых прычын распарадзіўся не замінаць варожай выведцы.

Джэкі з'явіўся на полі для гольфа, калі гульня была скончаная. Перамог, як заўсёды, Станіслаў Альбрэхт Радзівіл.

– Я падрыхтаваў прапанову для містара Хрушчова, – паведаміў Кенэдзі. – Яе перададуць апоўначы. Не ўпэўнены, аднак, што расійцы адрэагуюць па хуткім часе. У іх там цяпер нацыянальнае свята, дзень Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Вечар лянотна плёхаўся ў цёплым аквамарыне. Матросы скручвалі ў рулоны штучны газон. З бака пранізліва і апетытна пацягнула смажаным мясам, бы на сямейным барбекю.

Ален Далес разгублена зняў акуляры і пустымі вачыма паглядзеў паверх усяго; ён шчыра не разумеў, што адбываецца. Радзівіла і Кенэдзі звязвалі нейкія сакрэты, у якіх для ўсемагутнага спецслужбоўцы ўжо не было месца.

– Можа, містар прэзідэнт, вы ўсё ж растлумачыце, што азначае гэты пікнік? – пацікавіўся цээрушнік з падкрэслена нейтральнымі інтанацыямі.

– Гэта не пікнік, містар Далес, – абвергнуў Кенэдзі. – Гэта дэманстрацыя нашай салідарнасці з Чэ Геварам – палымяным змагаром за дэмакратычныя ідэалы і вялікім сябрам Злучаных Штатаў.

Дырэктар ЦРУ выслухаў інфармацыю з каменным тварам. Пра дзяржаўны пераварот у Гаване ён ужо ведаў, але ж не пра механізм яго здзяйснення і тым больш не пра далейшую стратэгію ЗША у кубінскім пытанні.

– Кожны міністр рэвалюцыйнай Кубы атрымаў ад нас па чамадане амерыканскіх грошай, такіх жа цяжкіх, як было жыццё кожнага з іх, – часткова прыадкрыў механізм Стэсі. – Самае цяжкое жыццё было ў містара Чэ Гевары, і таму ён атрымаў цэлых тры чамаданы. Наўзамен новы правадыр кубінскай рэвалюцыі паабяцаў лібералізацыю, рынкавыя рэформы і нават павагу да правоў чалавека.

– Найлепшай дэманстрацыяй салідарнасці з новым кубінскім рэжымам стане бамбёжка асяродкаў, дзе яшчэ падтрымліваюць дыктатуру Кастра, – бескампрамісна запярэчыў спецслужбоўца.

– Баявая авіяцыя таксама будзе задзейнічаная, – супакоіў прэзідэнт. – Толькі крыху пазней.

Бронепалуба закалацілася, бы пры ўзлёце цяжкога штурмавіка; гэта на палётнай паласе зароў і зрэзаўся магутны гукаўзмацняльнік. Па баявой рубцы на машту паволі папаўзла тканіна памерам з верталётную пляцоўку. Тканіна расцягнулася, надзьмулася мяцежным ветразем, але хутка знерухомела і жорстка зафіксавалася на тле вечаровага неба.

– Экран кінапраектара, – патлумачыў Джэкі. – Неўзабаве тут будзе занадта тлумна. Можа, працягнем на капітанскім мосціку?..

* * *

Космас над тропікам Рака праколвалі самотныя зорачкі і сузор'і. Поўня адорвала бронзай і маціцом. Спелым золатам сыпаў Млечны Шлях, і лятучыя рыбкі, палюючы на нябесны пылок, бязважка порхалі па-над чорнашклянымі хвалямі. Марыністычны краявід узбагачаў ударны авіяносец «Форэстал», які ў эскорце баявых караблёў нахабна ішоў тэрытарыяльнымі водамі Кубы.

Флагман Другога флоту ЗША выглядаў рыхтык круізны лайнер, арандаваны шчаслівымі выпускнікамі каледжа. Машты, лееры і барты сляпілі гронкамі святочнай ілюмінацыі. Па-над штыравымі антэнамі выбухалі вогненныя ружы салюту. На асветленай пражэктарамі палётнай палубе весялілася каманда.

Густыя вібрацыі, узмоцненыя апаратурай для стадыёнаў, праціналася пачуццёвым кашэчым вархатаннем:

*I wanna be loved by you, just you,*
*And nobody else but you,*
*I wanna be loved by you, alone!*
*Boop-boop-be-doop!..*

Напаўаголеная Мэрылін Манро спакушала з подыума, збудаванага ў самым канцы палётнай паласы; яе твар, абсыпаны зорнай пацярухай, ва ўсіх падрабязнасцях праектаваўся на гіганцкі экран. Аркестр прыгажунь у паўпразрыстых бікіні граў натхнёна

і ўзнёсла. Каманда слухала, прасякалася і сыходзіла слінай.

Кенэдзі, Радзівіл і Далес глядзелі канцэрт з капітанскага мосціка. Джэкі хціва мружыўся на спявачку і нават спрабаваў падпяваць; яго ўвідавоч кружляла карусель сэксуальных фантазій блізкай ночы. Стэсі падкрэслена абыякава цягнуў вечаровы аперытыў. Дырэктар ЦРУ паглядаў на ўвесь гэты Пірл-Харбар з непрыхаванай агідай і нечакана злавіў сябе на думцы: лепш бы «Форэстал» тарпедавала савецкая субмарына, толькі б не быць сведкам далейшай ганьбы.

А ліловую акварэль далягляду ўжо размываў электрычны пажар Гаваны. Ударны авіяносец ішоў проста на агні, ігнаруючы ўсе існыя законы міжнароднага Марскога права і магчымы ядзерны адказ Крамля. Матросы храбусцелі чыпсамі, запіваючы іх півам. Канцэрт уваходзіў у кульмінацыйную стадыю.

– Boop-boop-be-doop!.. – на агаленым эратычным нерве выдыхнула спявачка.

Аркестр скончыў. Матросы кончылі. Ален Далес нарэшце не вытрымаў:

– Наколькі я разумею, містар прэзідэнт, «Форэстал» цяпер – нешта сярэдняе паміж плавучай канцэртнай залай і філіяй Лас-Вегаса?

– Ані ў якім разе, – абвергнуў Джэкі вясёла і жорстка. – Але кубінцам, замардаваным дыктатурай, няшчымніцай і сакрэтнай паліцыяй, нашы ўзброеныя сілы трэба пазіцыянаваць менавіта ў такой якасці. Другі флот ЗША мусіць асацыявацца ў іх не з агрэсіяй, а з праявамі свабоды: ад буржуазнага гольфа і да здаровай эротыкі. Што да бомбавых удараў, то гадзіну таму на Гавану быў здзейснены масаваны авіяналёт B-52 – як вы, зрэшты, і хацелі. Нашы стратэгічныя бамбавозы скінулі сотні тысяч кантэйнераў з гуманітарнай дапамогай, з разліку па адным кантэйнеры на аднаго дарослага кубінца. Стандартны набор: адзін матрац, адна пляшка рому і адзін маракас…

– …гэта такі кубінскі эквівалент звыклага нам сэксу, наркотыкаў і рок-н-рола, – князь Станіслаў Альбрэхт запіў каментар аператывам. – Аднак галоўнае ў падарункавым наборы – капэрта з афіцыйным зваротам Джона Кенадзі звонку і банкнотай у дзесяць даляраў усярэдзіне. На гэтую суму сярэднестатыстычны кубінскі мужчына можа бязбедна жыць цэлы месяц.

– Але ж неба над Кубай шчыльна кантралюецца савецкай супрацьпаветранай абаронай, – разгублена нагадаў цээрушнік. – Няўжо абышлося без інцыдэнтаў?

– Для расійскіх салдат мы распрацавалі адмысловы тып гуманітарнай дапамогі – з улікам іх нацыянальнага разумення сэксу, наркотыкаў і рок-н-рола. Адзін парнаграфічны часопіс для мастурбацыі, адна пляшка спірту і адна балалайка, – адчаканіў Стэсі. – І ўсё выдатна спрацавала: савецкія радарна-лакацыйныя станцыі і ракетныя пускавыя ўстаноўкі былі спаралізаваныя ўжо праз гадзіну.

Знянацку дырэктар ЦРУ адчуў сябе мячыкам для гольфу, які са свістам і паскарэннем ляціць у бяздонным космасе. Ён выдатна ўсведамляў «як?..», але не цяміў «нашто?..»

– Разумею вашу разгубленасць, містар Далес, – прымірэнча пасміхнуўся Джэкі. – І шчыра перапрашаю за тое, што не паінфармаваў вас пра нашы планы раней. Так, Чэ Гевара – некіруемы псіхапат, і мець з такім справы куды страшней, чым з прамаскоўскім фанатыкам Кастра, пасіянарным і прадказальным. Але кубінская галеча змяніла веру з Фідэля на Чэ… Калі гэтыя абібокі праляжаць матрацы, выжлукцяць ром і раструшчаць маракасы, а гуманітарныя даляры павытрачаюць на прастытутак і баі пеўняў, ім зноў захочацца рэвалюцыі. Пакуль такая рэвалюцыйная сітуацыя не саспела, мы мусім пераканаць

Маскву, што шырокія народныя масы на чале з Чэ Геврам нас татальна падтрымліваюць. І зрабіць містару Хрушчову вабную прапанову: мы аднаўляем ва ўладзе звыклага для іх Фідэля, а наўзамен патрабуем стварэння нашай Кубы ў іх сацыялістычным канцлагеры.

– Класічная бартарна-клірынгавая здзелка з высокім прафіцытам, – падсумаваў Станіслаў Альбрэхт.

Гавана ўжо была відна няўзброеным вокам. «Форэстал» стаў на рэйдзе так, каб гіганцкі экран праектара акурат апынуўся на траверзе кубінскай сталіцы. Манро спявала, аркестр граў, каманда шалела. Набярэжная, нягледзячы на позні вечар, набрыняла густым святочным натоўпам.

На палубе ўспыхнуў пошукавы супрацьлодачны пражэктар. Сляпучае сіняе лязо рассекла трапічную цемру, светлавая пляма ўпэўнена паклалася на капітанскі мосцік. Праектар на баявой рубцы імгненна даў буйны план; Джэкі ў паставе Статуі Свабоды. Пастаўлены іміджмейкерамі позірк адлюстроўваў веліч місіі. Набярэжная выбухнула шалёнай авацыяй, і на яе накаліся ўзнёслыя воклічы «Віва эль грынга!..» і «Віва эль долар!..»

Перамога была хуткай, бліскучай і бяскроўнай; дырэктару ЦРУ заставалася адно вызнаць паразку.

– Ідэя, наколькі разумею, належыць містару Радзівілу? – удакладніў ён.

– Але, каб вам не было крыўдна, давайце назавём усё гэта «планам Далеса», – высакародна прапанаваў нашчадак літвінскіх феадалаў. – Спадзяюся, вы згодны?..

**Глава 13**

Чырвоная плошча сляпіла кумачамі сцягоў і глушыла меддзю маршаў. Каробкі пяхоты чаканілі рытм. Бясконцыя калоны бранетэхнікі з лязгатам уцягваліся на парадную дыстанцыю перад Маўзалеем. Па-над мешанінай штандараў, плакатаў, балонікаў і чалавечых галоў лунала бадзёрае:

– З сорак чацвёртай гадавінай Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, дарагія таварышы!.. Ура-а-а-а!..

Таварыш Хрушчоў абапёрся аб граніт трыбуны, у чарговы раз памахаў рукой, глянуў наніз. Па плошчы грукатаў падвоены ланцуг цыклапічных самаходных гаўбіц для стральбы ядзернымі снарадамі. Вочы Першага сакратара ЦК КПСС наліліся празрыстым блакітам.

– Чуеш, Радзівон Якаўлевіч, – Мікіта Сяргеевіч штурхнуў у бок міністра абароны Маліноўскага, няўлоўна падобнага да гутаперчавай шафы, зацягнутай у шэры маршальскі шынель. – Трэба было паставіць такія на Кубе – і па Флорыдзе! А потым імгненны паветраны дэсант на Маямі, Вашынгтон і Нью-Ёрк, га?!.. Хто тыя янкі супраць рускага штыка?.. Ат, шкада, што я тады не Фідэля паслухаўся, а вас з Суславым і Шэлепіным…

– Таварыш Фідэль Кастра пагэтуль знаходзіцца пад хатнім арыштам і сувязі з ім ужо няма, – асцярожна нагадаў Маліноўскі. – Жывы ён тамака ці не – невядома таксама. Гаванскую хунту ўзначаліў аргенцінскі фашыст Чэ Гевара, крывавы кат і стаўленік самых рэакцыйных колаў амерыканскай ваеншчыны. І дамовіцца з гэтым адмарожаным на ўсю галаву даўбаёбам практычна немагчыма.

– Ды ну вас усіх… Такі момант прасралі!.. – раздражнёна адмахнуўся Хрушчоў і скасавурыўся ў бок замежнікаў, якія сачылі за парадам з трыбуны ганаровых гасцей.

Вайсковыя аташэ капіталістычных краін вытрымлівалі на тварах дыпламатычны фасон; дэманстрацыя бязлітасна-пераможнай моцы Савецкага Саюза ўвідавоч пасылала ім сігналы, напоўненыя зашыфраванымі пагрозамі і прыхаванымі сэнсамі. А вось прадажныя заходнія журналісты

бессаромна шчоўкалі фотаапаратамі і па-шпіёнску блішчэлі лінзамі.

Паветра загусцела хіжым гулам. На плошчу пакладзіся гіганцкія рухомыя цені: над Масквою велічна праплывалі стратэгічныя бамбардзіроўшчыкі Ту-95. Празрыстыя прапелерныя дыскі зіхацелі сонечным пылам. Зоркі ганарліва палымнелі на дзюралевых крылах.

Мікіта Сяргеевіч прывітальна памахаў бамбавозам, прашаптаў засяроджана:

– НЕ, ДАРАГІЯ ЧЛЕНЫ ПАЛІТБЮРО… Я ВАМ ПАКАЖУ, ШТО ТАКОЕ ДЭМАКРАТЫЧНЫ ЦЭНТРАЛІЗМ І КУЗЬКІНА МАЦЬ! КАЛІ ПЕРШЫ САКРАТАР ВЫРАШЫЎ БАМБІЦЬ АМЕРЫКАНСКІХ ІМПЕРЫЯЛІСТАЎ, ЗНАЧЫЦЦА – БАМБІЦЬ ІХ НАХ!..

Дый апошнюю просьбу таварыша Кастра трэба выканаць, – Хрушчоў штурхнуў локцем старшыню КГБ: – Алё, Шурык, не спі, а то змерзнеш! Дык што нам з братнім кубінскім народам рабіць? Дапаможам?

Шэлепін ледзь заўважна зварухнуў вугалком каменнага рота: маўляў, ды з прыборам я клаў на тых трапічных гамадрылаў з іх рэвалюцыйнымі лозунгамі і валасатымі камандантэ! У сітуацыі вакол Кубы яго цікавілі хіба што шалёныя сумы ў валюце, якія праходзілі праз яго ведамства па графе «дапамога нацыянальна-вызвольным рухам».

– Вы ж, Мікіта Сяргеевіч, самі пагадзіліся, што спярша трэба раскласці амерыканскіх імперыялістаў з сярэдзіны, – далікатна нагадаў галоўны чэкіст вынікі размовы ў Піцундзе. – Наша рэзідэнтура ўжо прафінансавала новыя дозы сэксу, наркотыкаў і рок-н-рола, якія неўзабаве будуць упырснутыя ў згнілае цела Злучаных Штатаў. Што тычыцца супрацьдзеяння гэтай заразе ў СССР, то намі распрацаваны звышсакрэтны гіб...

– Глядзі, глядзі!.. – Першы сакратар азартна прыўзняўся на дыбачкі і выцягнуў шыю.

Перад Маўзалеем у пякельным грукатанні праходзілі цягачы з прычэпленымі балістычнымі ракетамі даўжынёю ў палову Чырвонай плошчы. Бруканка рыпела і прагіналася. Атрутныя чорныя выхлапы шматкамі ляцелі да ўрадавай трыбуны.

Хрушчоў праводзіў ракеты зачараваным позіркам, і яго вочкі наліліся ганарлівай слязою за дзяржаўную веліч СССР.

– Як прыгожа ідуць, ну проста Вялікі Тэатр і «Лебядзінае возера»!.. Во, Шурык, дзе моц! Адна такая ракета – і паловы Амерыкі як не было! А ты кажаш: рок-н-рол, наркотыкі, махнатка…

Калона цягачоў з балістычнай зброяй уцягвалася ў гарлавіну каля сабора Васіля Блазнаватага, азіяцкія цыбуліны якога прасвечваліся праз шчыльную чырвань сцягоў. Калі апошні цягач наблізіўся да Лобнага месца, Мікіту Сяргеевічу падалося, што шматтонная межкантынентальная ракета падскочыла на бруку пругка і лёгка, бы аэрастат паветранай загароды…

Хрушчоў заплюшчыў вочы, а калі зноў паглядзеў у бок Лобнага месца, цягача ўжо не было.

– Радзівон Якаўлевіч, – напружана прашаптаў ён міністру абароны. – Ты бачыў? Ракета нейкая дзіўная. Кісялём варушыцца!..

– Ракета як ракета, – знізаў плячыма Маліноўскі. – У нас такіх сотні, мы іх, што тыя сасіскі, вырабляем… Стаміліся вы, Мікіта Сяргеевіч!.. Адпачываць трэба часцей.

Куранты ўрачыста прабілі дзяржаўны поўдзень. Вайсковая частка парада заканчвалася. Перад Маўзалеем чаканілі крок апошнія каробкі пяхоты, і падэшвы сінхронна бразгалі падкаваным металам па бруку.

Маршал Маліноўскі замілавана цешыўся адборным страявым матэрыялам. Старшыня КГБ Шэлепін інтымна схіліўся да вуха галоўнага ідэолага Суслава. Хрушчоў нецярпліва паглядаў на гадзіннік: у Крамлі ўжо, напэўна, накрывалі сталы, а перад Маўзалеем яшчэ мелася прайсці пратакольная калона працоўных з транспарантамі, спадарожнікамі і кукурузінамі.

Перспектывы ўрачыстага банкета змусілі Мікіту Сяргеевіча амаль пазабыцца на невытлумачальнае хістанне ракеты, якое сапраўды магло яму прымроіцца. На Чырвонай плошчы з'явіліся фізкультурнікі з піянерамі. Шырокія народныя масы дэманстравалі гарачую падтрымку, вымахвалі кумачамі і са спрытам жывых аўтаматаў групаваліся ў гіганцкія словы «СССР», «КПСС» і нават у цэлыя лозунгі.

А па службовых сходах Маўзалея ўжо падымаўся фельд'егер з пакетам у руках. Ён трэніраваным рухам крануў Хрушчова за пляча, працягнуў пакет і імгненна выпарыўся з трыбуны.

* * *

Святочны банкет у Георгіеўскай залі Крамля адкладаўся на няпэўны час: адразу пасля параду Мікіта Сяргеевіч загадкава знік.

Члены Палітбюро разгублена тапталіся каля сталоў з халоднымі закускамі на гербавых сервізах і напружана пазіралі на гіганцкія залачоныя дзверы. Афіцыянты ў чорных, бы ў заможных трунароў, стройчыках без дай патрэбы праціралі крышталь, далікатна дзінькалі срэбрам прыбораў і папраўлялі карункавыя сурвэткі.

Хвіліны шклянелі і блямкалі. Прысутныя прасякаліся ўсё больш і больш нядобрымі прадчуваннямі за свае лёсы. Маршал Радзівон Маліноўскі, апрануты ў парадны мундзір, нервова бразгаў ордэнамі, бы цыркавы конь наборнай збруяй. Ідэолаг Міхаіл Суслаў учарэпіўся палеартрытнымі кіпцюркамі ў ампірны фатэль. Адказны за абаронную прамысловасць Дзмітрый Усцінаў сутаргава прамакаў лоб пакамечаным насоўкай. І толькі старшыня КГБ Аляксандр Шэлепін выглядаў надзіва спакойным – пра яго напругу сведчылі хіба што хіжыя позіркі, якімі ён абмацваў прысутных.

Дзверы Герогіеўскай залі важка разышліся, нібы створкі шахты балістычнай ракеты. Мікіта Сяргеевіч кантужана прашаркаў па наборным паркеце, плюхнуўся ў фатэль, набулькацеў гарэлкі ў трохсотграмовы фужэр для крушону і выпіў нагбом. Ён нагадваў свінаматку, якая ў нейкі цуд пазбегнула нажа рэзніка, але паабяцала наўзамен аддаць яму найлепшага парсюка з прыплоду.

Хрушчоў адрыгнуў, падчапіў відэльцам грыб, занюхаў і толькі потым закусіў.

– Яны ахуелі... – упала ў касмічнай цішыні залі.

– Хто, Мікіта Сяргеевіч? – спачувальна ўдакладніў Шэлепін.

– Хто, хто… Сэры і херы ў паліто! Амерыканцы, а то хто ж яшчэ?! – Першы сакратар ЦК КПСС быў гатовы восьвось сарвацца ў істэрыку. – Я толькі што з гэтым выпердышам па тэлефоне гаварыў, з Кенэдзі! Імперыялісты без адзінага стрэлу захапілі Гавану. Яны згодныя аднавіць ва ўладзе Фідэля Кастра і нават дазволіць яму будаваць на Кубе камунізм з усім, што з гэтага вынікае. Але ведаеце, што Кенэдзі запатрабаваў наўзамен?.. Не ведаеце?.. То слухайце…

**Глава 14**

Дзяржаўныя ўрачыстасці праходзілі ў Нясвіжы прыстойна.

Пасля святочнай дэманстрацыі старэйшыя пацягнуліся па хатах: выпіваць за Кастрычніцкую рэвалюцыю і глядзець па тэлевізары крамлёўскі канцэрт. Маладыя прагнулі весялосці і кахання. Весялосцю адорвалі

на Плошчы: народныя гулянні з духавым аркестрам і перасоўным буфетам. А каханне можна было пабачыць у кінатэатры, куды завезлі новы фільм з Мэрылін Манро.

Пунсовыя сцягі матляліся ў бляклым блакіце. Заакіянская бляўка гарэзліва пасміхалася з афішнае тумбы. Да кіназалы сцякаліся рамантычныя пары. Народ паважна прапусціў санітарны УАЗ, які збочваў праз ходнікі. Фургон абдаў мінакоў ядучым выхлапам і спыніўся ў цёмным закутку.

Неўзабаве з цемры выплыў каларытны дзяцюк, апрануты ў эстэтыцы савецкага мінімалізму: кірзачы, галіфэ, ільсняная армейская ватоўка і салдацкая вушанка з чырвонай зоркай. Постаць агламошвала габарытамі і нерастрачанай моцай – салдат быў крыху меншым за статую правадыра перад Домам піянераў. Твар міжволі наводзіў на думкі пра ратныя подзвігі і ваенна-палявую хірургію: скура колеру гарэлага мяса, нізкі шнараваты лоб і цяжкія надброўныя дугі з глыбока пасаджанымі вачыма.

Звяружны волат падышоў да афішнае тумбы, з нянавісцю глянуў на Мэрылін Манро і агрэсіўна загырчэў. Мінакі шарахнуліся. Школьніца з шыкоўнымі белымі бантамі танютка войкнула. Валацужны сабака злякана падціснуў хвост, віскнуў і ўцёк.

Дужыя валасатыя пальцы расшпілілі ватоўку. З гімнасцёркі бліснуў ордэн Леніна. Пад узнагародай чарнела шырачэзная мясніцкая сякера, заткнутая за салдацкі рэмень. Дзяцюк зухавата выхапіў сякеру і ўсадзіў ў твар красуні па самы абух. Лёгка прыўзняў тумбу на дзяржальні і, бы тым паленам, храбыснуў аб брук. Колькі ўдараў ляза – і ад масіўнага цыліндра засталася піраміда ўломкаў.

Натоўп імгненна здзьмула на дальні бок вуліцы. Твары скрывіліся ў неўратычнай разгубленасці. Узнікла лёгкае адчуванне страты рэальнасці, якое звычайна здараецца падчас цыркавога распілоўвання людзей.

Тым часам салдат сеў на лаўку, адклаў зброю і тужліва схіліў галаў – нібы прыгадаў варожы артабстрэл, смерць баявых сяброў і апошнюю гранату ў баі супраць пяці фашысцкіх танкаў. Ён не выдаваў на вар'ята ці падпітага: трымаўся роўна, глядзеў цвёрда, смуткаваў шчыра.

У паветры віяланчэльнай струною пульсавала напруга. Волат нерухоміў бронзавым помнікам. Народ чакальна пaглядаў, што будзе далей. Час запаволіўся, загусцеў і ашклянеў, нібы смалісты нацёк на сосне.

Нарэшце, у натоўпе не вытрымалі.

– Дзядзька, ну нашто ты пасек прыгожую бялявую жанчыну? – запытаўся нехта нябачны і палахліва змоўкнуў.

Дзяцюк падняўся, агрэсіўна глянуў паверх галоў і шалёна заварочаў налітымі крывёю вачыма.

– У ябала – хочаш?!.. – зароў ён нялюдска нізкім басам.

– За што?!.. – сумеўся нябачны.

– Ты ж фашыст, блядзь!!!.. – салдат тыцнуў у бліжэйшыя твары фотаздымкам: стацыянарная шыбеніца, савецкія патрыёты з петлямі на шыях і купка шчаслівых эсэсаўцаў, прытым на першым плане свяцілася бялявая арыйка, вельмі падобная да Мэрылін Манро. – Ты за іх, сука?!..

– Ды ў мяне тата загі…

– Дык ты, удрота, на забойцу свайго бацькі прыйшоў любавацца?!.. – раз'юшана выбухнуў волат, цяжка задыхаў і ўтаропіўся ў білетную касу з плакатам амерыканскага фільма. – Хто тут не за фашыстаў – здзірайце на хер карцінкі з нямецкай падсцілкай!..

Натоўп здрыгануўся і сцяўся, рыхтык працяты электратокам малюск: гэта быў ужо заклік да хуліганства, пагрому, а мажліва, нават да бунту.

Вядома ж, салдат быў героем. Магчыма, амерыканская бляўка з афішы сапраўды вешала патрыётаў. Але падпарадкавацца мяцежным

словам не дазвалялі закон, традыцыі і прыродная любоў да парадку.

А да месца здарэння ўжо паспяшаў міліцыянт. Ён няверліва агледзеў уломкі тумбы, ацаніў парушальніка з мясніцкай сякерай і на ўсялякі выпадак спыніўся наводдаль.

– Вашы дакументы, грамадзянін!

– Шо?! – дзяцюк люта бліснуў вачыма, ірвануў на грудзях ватоўку і выставіў напаказ ордэн Леніна. – Вось мой дакумент!..

Праваахоўнік пацягнуўся да кабуры, але, глянуўшы ў дзецюковы грудзі, адразу адсунуў руку. На баку волата былі звяружная моц, акопная праўда і высокая дзяржаўная ўзнагарода. Яго можна было толькі забіць, але забіваць яго было нельга.

Пакуль міліцыянт разважаў, што зрабіць найперш – разганяць народ ці звязацца з начальствам, – ад санітарнага УАЗа аддзялілася цыбатая постаць і кароткай фразай выкінула мянта з краявіду.

Напруга адразу згасла – улада відавочна не збіралася караць ані падбухторшчыка, ані тых, хто выпадкова апынуўся побач. У натоўпе з'явіліся спачувальныя посмешкі: антыфашысцкая прапаганда выклікала спагаду.

Звераваты гігант загырчэў у прыязнейшай інтанацыі:

і сяброўскіх размоў, а не зухаватых і падазроных подзвігаў.

З героем, аднак, засталося з тузін рашучых і прагных: школьнікі, пэтэвэшнікі і маладыя калгаснікі.

Дзяцюк дзелавіта расклаў з уломкаў вогнішча, сеў на кукішкі і з выглядам пераможцы на руінах Рэйхстага запаліў беламорыну. У вагні палалі і курчыліся пашкамутаныя плакаты з Мэрылін Манро, якія маладзёны толькі здолелі знайсці ў Нясвіжы. На юнацкіх тварах палымнелі гераічныя міражы.

Дзяўчынка з шыкоўнымі белымі бантамі запыталася з павагай:

– Таварыш ветэран, а колькі гадоў вы супраць фашыстаў ваявалі?

– Ад званка да званка, – волат цвыркнуў доўгай жоўтай слінаю на барвовыя вуголлі. – Стаялі насмерць. І я вас, підары, навучу светлым ідэалам!..

* * *

– ...па дакументах нашай лабараторыі ён праходзіць як «ГіБрыд», ці «ГэБэ», калі скарочана, – доктар Паўлаў засяроджана сачыў за дзецюком праз прыладу начнога бачання. – Але ж выглядае амаль як чалавек. Ды й звяртацца да яго неяк трэба. Вось і прыдумалі яму сугучны аператыўны псеўданім: Гаўрыла Батыеў.

ПАКУЛЬ МІЛІЦЫЯНТ РАЗВАЖАЎ, ШТО ЗРАБІЦЬ НАЙПЕРШ – РАЗГАНЯЦЬ НАРОД ЦІ ЗВЯЗАЦЦА З НАЧАЛЬСТВАМ, – АД САНІТАРНАГА УАЗА АДДЗЯЛІЛАСЯ ЦЫБАТАЯ ПОСТАЦЬ І КАРОТКАЙ ФРАЗАЙ ВЫКІНУЛА МЯНТА З КРАЯВІДУ.

– Хулі вы як нярускія?.. Здзірайце гэтую гітлераўскую поскудзь, дзе толькі пабачыце!..

Прахалодны ветрык шліфаваў засівераныя твары. На вуліцы запаліліся ліхтары, каламутныя жоўтыя дзьмухаўцы з хісткімі німбамі наўкол. Патаптаўшыся вакол волата, народ моўчкі пасунуўся па хатах; святочным вечарам хацелася хатняе ўтульнасці

Чэрава санітарнага УАЗа нагадвала мініяцюрны начальніцкі кабінет: дываны на сценах, партрэт правадыра і столік са скуранымі фатэлямі. У стылістыку не ўпісваўся хіба што закратаваны закуток напалову салона, відавочна перанесены з аўтазака.

Загадчык сакрэтнай лабараторыі адклаў прыладу. Нервова пашкрабаў жывот, прасветлена пасміхнуўся

лабарантцы Каці, прымружыўся на немаладога цыбатага дзядзьку з постным тварам вахцёра.

– Ну што, дарагія таварышы. Першы выхад у свет нашага гадаванца атрымаўся надзіва ўдалым, – Паўлаў выцягнуў з-пад століка пляшку каньяку з гранчакамі, разліў узважанай рукою хірурга. – Прапаную адзначыць чарговую перамогу савецкай навукі.

– Гэта Ленінская прэмія, таварыш палкоўнік медычнай службы! – мовіла Каця ціха і пранікнёна. – Шкада, як закрытым спісам дадуць. Але, з іншага боку, не друкаваць жа пра стварэнне новага тыпу савецкага чалавека ў газеце «Правда»!

– Чаму «ГэБэ» – зразумела, – цыбаты засяроджана панюхаў каньяк, выдыхнуў і інстынктыўна пашукаў вачыма кіслы гурок. – Сапраўдны, клапом смуродзіць! Але чаму ён…

– …чаму менавіта «гібрыд»? – доктар выпіў нагбом, выцер далонню рот. – Усё проста: маці ў яго гарыла, а тата – рускі. Звычайнае міжвідавае скрыжаванне. Дазаванае апраменьванне пры атамным рэактары з мэтай мутагенезу. Эпіляцыі, імплантацыі, пластычныя аперацыі. Заняткі з дрэсіроўшчыкам, лагапедам і палітруком. Апошняю шліфоўку і першыя выпрабаванні даверылі нашай лабараторыі. І ўсё, як бачыце, атрымалася!

Цыбаты на знакі паказаў, што за гэта варта выпіць зноўкі.

– Але ж занадта пільны маёр з мясцовага райаддзела гэбэ… — нагадала лабарантка нясмела.

– Пяткевіча яшчэ раз папярэдзілі, каб не лез не ў свае справы, – адмахнулся Паўлаў. – Для яго ўжо падрыхтаванае інфармацыйнае паведамленне, якое ён назаўтра і адправіць кіраўніцтву. Маўляў, у дзень Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі шырокія народныя масы выказалі стыхійнае абурэнне дэманстрацыяй нізкапробнага амерыканскага фільма, які прапагандуе гвалт, сэкс і заняпад нораваў. «Мы не дазволім разбэшчваць нашу моладзь!» – заявіў Гаўрыла Батыеў, удзельнік Вялікай Айчынай і заслужаны ардэнаносец.

– Ордэн ваш жыўчык з ветэраншы садраў, якую ледзьве не згвалціў? – удакладніў цыбаты з крывой пасмешкай.

– Анягож не!.. – шкляныя вочкі палкоўніка медычнай службы бліснулі нездароўчым захапленнем. – Узяў трафей – дык і добра; а то што за герой без ордэну? І ўжо заўтра па горадзе пойдуць гуляць байкі пра франтавыя подзвігі нашага гібрыда. Як пад Сталінградам сяржант Батыеў кінуў гранату, якія забіла трыццаць фашыстаў, а потым выбухнула. Як з сякерай на Курскай Дузе ён быў страшнейшым за танк. А без сякеры – і ўвогуле танкам!

Вогнішча перад кінатэатрам палала ўжо з паўгадзіны. Барвовыя водблескі кладіся на сцены і брукаванку ліпучымі камуфляжнымі плямамі. Доктар прыклаў акуляры шпегунскага апарата да вачэй: волат, мяркуючы па звяружных грымасах, даваў юнакам урок мужнасці. Па коле пайшла біклажка спірту пад бляшанку тушонкі.

Карціна схіляла да чуллівага маналога. Паўлаў накаціў, хэкнуў, энергічна пачухаў геніталіі і натхніўся на сола.

– Звычайны дарвінізм, можаце пераканацца самі, – доктар перадаў апарат цыбатаму. – Калі харызматычны альфа-самец прымае у свой статак несвядомых маладзёнаў, у апошніх з'яўляецца адчуванне асэнсаванасці жыцця і падвышаецца самаацэнка. Статак набывае статус, чым і вабіць неафітаў, якія ўсведамляюць сваю непаўнавартаснасць і прагнуць зацвердзіцца ў вачах аднагодкаў праз сяброўства з героем. З цягам часу мы атрымліваем сімпатычную хеўру з выдрэсіраваным дамінантным самцом, жорсткай іерархіяй і жалезнай дысцыплінай. Раскажыце ім каля вогнішча пра фашызм, нагадуйце тушонкай са спіртам і пакажыце на ворага –

і хеўра без ваганняў пашматуе яго, бы той плакат. Гэта і ёсць наш адказ амерыканскім імперыялістам з іх хвалёнымі свабодамі: сэксам, нар…

Знянацку ад вогнішча данеслася жывёльнае скавытанне ў пачварна нізкай танальнасці:

– У-у-у!.. У рот, у душу і ў дупу!..

Паўлаў схамянуўся, адставіў шклянку, сувора ўтаропіўся ў Кацю:

– Сюды яго цягні па-хуткаму, а то яшчэ згвалціць каго незнарок! Твая, між іншым, недапрацоўка!..

– Я яму сёння ўжо двойчы драчыла, таварыш палкоўнік, – лабарантка паспешліва адчыніла дзвёрку. – Як вы і загадалі: зраніцы і акурат перад выездам сюды…

– Я сказаў – хутка!..

Дзявуля паслухмяна зацокала абцасамі да вогнішча. Цыбаты коратка і цынічна рагатнуў. Доктар Паўлаў нервова пачухаў шыю, выйшаў з фургона, зашаргацеў цыгарэтным пачкам.

Ад Замкавага возера цягнула пранізлівым халадком. Вуголле інтымна ружавела ў ліловай імгле. Каця кранальна схілілася да вуха Гаўрылы Батыева, але адразу адскочыла – волат з нечаканым для яго камплекцыі спрытам цапнуў дзявулю за азадак.

– Мы ўвесь свет паставім ракам, усіх нярускіх – ломам у сраку!.. – пераможна разнеслася па начным Нясвіжы.

– На жаль, лібіда ў гібрыдаў амаль не кантралюецца, – скрушна засведчыў доктар. – Можна хіба што рэгуляваць.

– Сухадрочка для такога прыгожага палаваспелага самца – гэта неяк ненатуральна! – заспачуваў суразмоўца. – Яму б ладную самачку!

Лабарантка спраўна выканала загад: неўзабаве Гаўрыла Батыеў, пажадліва пускаючы сліну, стаяў ля расчыненых дзвёрак фургона. Вочы зіхцелі бутэлечным шклом, ноздры шалёна раздзьмуваліся, пальцы дрыжэлі – ён відавочна ўзбудзіўся.

– Расцвіталі яблыні і грушы, паплылі туманы над ракой! – шчасліва загарлаў дзяцюк у прадчуванні аргазму. – Выхадзіла на бераг Кацюша…

Доктар па-бацькоўску паклаў лабарантцы руку на плячо.

– У яго, Кацюша, сёння быў вельмі цяжкі дзень. Так што табе трэба пастарацца!

– Зробім, зробім, – лабарантка спрактыкавана нацягнула медычныя гумовыя пальчаткі і адступіла, прапускаючы гібрыда ў салон. – Пайшлі, Гаўрык! Толькі вы, таварыш палкоўнік медычнай службы, не падглядайце!

– Кацюша! – паўтарыў Паўлаў з націскам. – Гэтым разам табе давядзецца задаволіць яго не рукамі, а іншым месцам.

– Я… кім? – сумелася дзеўка.

– Тым самым, якім цябе мамка на свет нарадзіла!

Каця разгублена адступіла. Твар яе пайшоў барвовымі плямамі, вочы набрынялі, нос завастрыўся.

– Як гэта… Я не хачу, нехачу, нехачунехачу!.. – прашаптала яна і зашморгала носам. – У мяне ж хлопец ёсць, з мінскага Упраўлення… Прыгажун, разумнік, герой… уласнаруч прысуды выконвае!

Гібрыд гупаў у салоне рытмічна і нецярпліва. Позірк доктара Паўлава ціснуў з цяжкасцю танка. Лабарантка пашукала раскаардынаванымі вачыма пункт апірышча і спынілася на твары цыбатага.

– Таварыш начальнік рэжыму!.. – залапатала яна ўмольна. – Ну хоць вы растлу…

– Не выканаеш загад кіраўніцтва, таварыш лейтэнант Дзяржаўнай Бяспекі, – твой хлопец выканае цябе, – жорстка адсек той і прыўзняў далонь з сухімі кашчавымі пальцамі. – Ды я ў трыццаць сёмым такіх сабатажнікаў вось гэтай самай рукою…

Доктар абняў дзявулю, прыціснуў, пяшчотна пацалаваў яе ў голаў.

– Кацюшанька, дзяўчыначка ты мая любая, – прамовіў ён ясна і пранікнёна. – Я не магу табе загадваць як начальнік і старэйшы па званні. Я магу толькі папрасіць. Як адзіную дачку… Трэба – разумееш? Не для мяне асабіста, Каця. Для нашай з табою Радзімы. Для абароны роднай дзяржавы ад сусветных імперыялістаў. Для перамогі савецкай навукі, у рэшце рэшт! Згадай бязвусых пацаноў, якія паклалі маладыя жыцці пад Сталінградам! Думаеш, у іх не было каханых? Ці, можа, ім так хацелася паміраць? А цябе нават паміраць ніхто не прымушае… Пакуль што.

Дзявуля пранізліва ўсхліпнула, крыху павагалася, але пайшла ў салон. Доктар запаліў цыгарэту, выцягнуў з кішэні плашча чарговую пляшку, скруціў корак.

– Ну, за баб! – палкоўнік медычнай службы падміргнуў, каўтануў проста з рыльца, працягнуў суразмоўцу.

– Усе савецкія бабы – тупыя блядзі, – адмахнуўся цыбаты, і ягоны вахцёрскі твар заплыў халоднай грэблівасцю. – Самы ненадзейны элемент.

– Затое які прыемны! Не кажучы ўжо пра іх прыродную патрыятычнасць. У цяжкія для Радзімы часы гэта сапраўдны інкубатар народных гераінь!

З фургона данёсся кароткі пранізлівы войк, потым – яшчэ адзін, потым – яшчэ… Праз колькі секунд УАЗ хадзіў рытмічным ходарам, рыхтык нягеглы бліндаж падчас бамбёжкі. Раптам з сярэдзіны шалёна заскавытала, нібы там жыўцом смажылі котку, але скавытанне заглушыў густы жывёльны рык у ненатуральна нізкім рэгістры.

І ўсё сцішылася.

Доктар засяроджана запляваў недапалак, сунуў пляшку ў кішэню, прыадчыніў дзвёрку і асцярожна глянуў усярэдзіну. Каця ляжала на падлозе з задранай спадніцай, у калюжыне цёмнай ліпучай крыві. Вочы яе глядзелі нерухома.

– Зноў лабарантку трэба выпісваць, – стомлена канстатаваў Паўлаў. – Трэцюю за апошнія паўгода.

– Нашто спатрэбілася падкладаць яе пад малпу менавіта цяпер? – цыбаты пасунуўся за стырно.

– Героя трэ было тэрмінова ўлагоджваць. Узбудзіўся занадта. Каб не самаахвяроны подзвіг нашай Каценькі – адымеў бы нас тут абодвух, рыхтык калгаснага бугая Чапаева, – доктар спакойна пераступіў праз труп, пасеў да вакна і па-свойску падміргнуў гібрыду; той сядзеў у закратаваным закутку на кукішках і сытна адрыгваўся. – Ну што, мацёры чалавечышча, задаволены?

**Глава 15**

Гольчаты прамень працяў ватную хмару. Могілкі на аплылым кургане зацяпліліся вечаровым дымным святлом, і росы на капцах ўспыхнулі прывіднымі лампадкамі.

Дзядзька ў дбайна начышчаных ботах, схіліўшыся над магільным каменем, засяроджана саскрабаў лішайнік і бруд. Пад пальцамі праступалі рыскі, падобныя да расколін, складаліся ў літары, словы і лічбы. Апошняй праявілася дата смерці: «1947».

– Мама… – прашаптаў ён ледзь чутна.

Вяршыні соснаў гойдаліся пад нізкім шурпатым небам, сеялі сухія хваінкі на крыжы, камяні і сцежкі. Дзядзька старана абшкроб надмагілле, падняўся, прымружыўся ў далягляд. Пажухлая паша з плямістым статкам, бурыя скірды, жоўты прасёлак наводдалі... Вочы звыкла шукалі гонтавы дах дзедаўскага хутара праваруч кургана, але цяпер на тым месцы залаціўся малады беразняк.

Ён асцярожна пасунуўся між безыменных капцоў і крыжоў з сатлелымі лахманамі павязаных даўным-даўно ручнікоў.

І спыніўся.

На ўскрайку кладаў, сярод растаптаных гурбаў зямлі і прымятага кустоўя, цямнелі праваленыя прамакутнікі магіл. Блізка курганнага адхону ўзвышаўся акуратны штабель выкарцаваных каменных надгробкаў у свежай глебе. Раскатаны след аўтамабільных пратэктараў цягнуўся да прасёлка.

А ад калгаснага статку ўжо тупала скотніца, старэча ў ільснянай ватоўцы і заношанай хустцы, з сухім прутком у руках. Падышла, агледзела незнаёмца пранізлівым хутарскім вокам, ледзь заўважна здзівіліся яго нетутэйшаму выгляду…

– Пахаваны ў вас тут нехта, ці як? – спыталася недаверліва.

Хустка ў старой была завязаная, як калісьці ў мамы. І пруток яна трымала так жа сама, як маці, калі тая пасвіла кароў – перад сабою.

– Пахаваны… А што за нелюдзь магілы апаскудзіў?

– Ананій Міроныч, старшыня наш, кажа – мерцвякі, маўляў, усю гару захапілі. Кладачкі распахаць хоча, а старыя надмагіллі на шчабёнку пусціць, на галоўнай сядзібе дарогу падсыпаць, – патлумачыла старая будзённа. – А вы, пэўна, з самога Мінска? Ці з праверкай якой, ці проста?

– Проста з праверкай.

Скотніца патапталася вакол мужчыны, трывожна ўгледзелася ў яго вочы і мовіла нібы сама сабе:

– Да Мані Крукоўскай сына падобны. Але ж таго, кажуць, Саветы ў сорак пятым забілі…

Дзядзька скамянеў тварам: наконт маці старая не памылялася. Дый і сам ён, здаецца, пазнаваў скотніцу – цётку Агнэсу, стрыечную маціну сястру…

– Да калгаснай сядзібы далёка?

– То хадзем пакажу. Мне ўжо статак назад гнаць…

Халоднае сонца хавалася за зубчастым лесам. Ад балотаў наплываў зяблівы туман. Цярплівыя, добрыя і стаічныя каровы цягнуліся прасёлкам. Цётка Агнэса, радая нагодзе, распавядала пра жыццё. Маналог яе гучаў экзінтэйцыйна, бы малітва дзіцёнка, і прастадушна, як скарга ў сельсавет: няшчымніца, хваробы, здрабнелая бульба і старшыня калгаса «Чырвоны шлях», капрызлівы і фанабэрысты паночак… і за што на нашыя галовы такое ліха?..

– Вось ваш старшыня магілы дзядоў-прадзедаў нішчыць, а вы нават не абураецеся, – упікнуў спадарожнік. – Значыцца, годнасці ў вас няма, а як няма – то й цярпіце, што маеце. Хіба хлопцаў у вёсцы не засталося, каб таго нелюдзя па-цёмнаму падпільнаваць?

– Вой, што вы такое гаворыце! – скотніца перайшла на прыдушаны шэпт і нават адступіла на які крок, каб дыстанцыявацца ад крамолы. – Тыя, хто ўладай абураўся… то няма іх даўно. Хто ў Сібіры, а хто і ў зямлі. Дый у калгасе цяпер усё адно лепш, чым у вайну! За немцам бульба яшчэ драбнейшай радзіла!..

На калгаснай сядзібе было ціха, цёмна і сумна. Патыхала гноем, сцюдзёным капусным водарам і познімі кветкамі.

Агнэса пільна ўглядалася ў госцеў твар, эстэтычна чужародны калгасу, і ўваччу яе чыталася збянтэжанасць.

– Гаворыце па-нашаму, а выглядаеце неяк дзіўнавата, – вынесла яна канчатковы прысуд. – То Маня-нябожчыца вам усё ж кім даводзілася?

– Мне тут усе сваякі, – мужчына агледзеўся. – Чым да Нясвіжа цяпер можна дабрацца?

– Папуткай хіба. Бачыце бляшаны дах? То старшынёва хата. За ёй «Сельпо», а там і дарога на Нясвіж…А як не з'едзеце – у мяне заначуеце, ву-унь тая хата.

* * *

Сінюшнае тэлевізійнае святло разлівалася ў зале, няўлоўна падобнай да падсобкі камісіёнкі: серванты

з трафейнымі нямецкімі сервізамі, швейныя машынкі на люстраных шафах і дываны з лебедзямі. У старасвецкім фатэлі раскашаваў мажны свінавокі мужчына – абсмоктваў селядца пад самагон і пяліўся ў тэлеэкран. Тоўстыя пальцы срабрыліся луской, вусны блішчэлі рыбным тлушчам. Блакітныя блікі наліпалі на гаспадарскі твар – гідлівы і сыты, бы ў меланхалійнага вупыра.

ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ ПАКАЗВАЛІ АМЕРЫКУ: ЧАРНАСКУРЫЯ ДЗЕТКІ Ў ТРУШЧОБАХ, КВОЛЫЯ ГАЛАДРАНЦЫ Ў ЧАРЗЕ ПА ТАЛЕРКУ СУПУ… САКАВІТЫ БАРЫТОН ЗА КАДРАМ СМАЧНА АПАВЯДАЎ ПРА ІМПЕРЫЯЛІЗМ, КАЛАНІЯЛІЗМ, ДЫСКРЫМІНАЦЫЮ, БЕСПРАЦОЎЕ І ГАЛЕЧУ, А ТАКСАМА ПРА БЕЗДУХОЎНАСЦЬ АМЕРЫКАНСКАГА ЛАДУ ЖЫЦЦЯ.

Бездухоўнасць ілюстравалася карцінкай: чорныя лімузіны перад Белым домам, афіцыянты са сподамі і шыкоўныя ўсмешлівыя капіталісты ў шыкоўных смокінгах, якія трымалі пад рукі шыкоўных жанчын у шыкоўных дэкальтаваных сукнях. Барытон патлумачыў, што так эксплуататары марнуюць мільёны, нарабаваныя ў амерыканскага пралетарыяту.

Гаспадар засяроджана дагрыз селядцовую галаву, дапіў, набулькаў і журботна скасавурыўся ў акно. Дашчаная прыбіральня, панурыя шыферныя дахі і лямпа ў бляшаным конусе над ганкам «Сельпо»… Памуліўся, пакрахтаў, ухапіў за хвост чарговага селядца і зноў утаропіўся ў тэлевізійных курваў і джэнтльменаў, гэткіх прывідаў з-за межаў рэальнасці.

– А мы тут, бы тыя пчолкі… – прашаптаў мужчына ці то з агідай, ці то з зайздрасцю.

На падворку бразнуў ланцуг, перарывіста і злосна забрахаў сабака. Гаспадар здрыгануўся, уцягнуў голаў у плечы і баязліва глянуў паверх фіранкі, але адразу ўпікнуў сябе за ўкаранелы рэфлекс: чорныя варанкі па начах ужо восем гадоў як не ездзілі.

Сабака захлынаўся шалёным брэхам, ірваў ланцуг і гырчэў, але зьнянацку віскнуў і сцішыўся. Мужчына мацюкнуўся, выцер тлустыя рукі газетным камяком і неахвотна пасунуўся ў сенцы. Намацаў у куце сякеру, асцярожна адчыніў дзверы. Пастаяў, паслухаў, высмаркаўся, паслухаў, пашкрабаў ніз жывата, уважлівым позіркам праінспектаваў паўабляцелы сад і сарайчыкі за прысадамі… На падворку панаваў санлівы спакой. Хіба што сабака змоўк падазрона хутка, але ён мог пабрахаць на позняга мінака для блезіру і схавацца ў будцы.

Гаспадар адклаў сякеру, выдыхнуў з палёгкай і пайшоў у залу. Рыпнуў дзвярыма – і сутаргава схапіўся за вушак, каб захаваць цела вертыкальна.

У фатэлі перад тэлевізарам сядзеў зусім незнаёмы дзядзька: каменнае падбароддзе з гранёнай ямінкай, хітраватыя сялянскія вочы пад пукатым лобам… Боты нязванага госця блішчэлі люстэркам. Прыадчыненае вакно тлумачыла спосаб яго пранікнення ў хату, але ж не асобу самога госця, і ўжо тым больш – не мэту яго візіту.

Першай думкай было: зараз незнаёмец зжарэ селядца, выжлукціць самагонку і вынесе тэлевізар, але ж госць відавочна не нагадваў крымінальніка.

– Ты… што тут робіш? – нечаканым фальцэтам прасіпеў гаспадар.

Дзядзька сцішыў у тэлевізары гук, скасавурыўся нядобра.

– Прапануеш адразу на «ты»? Прынята. Ананій Міронавіч Басота – гэта ты?

Пытанне прагучала надзіва спакойна, але ў інтанацыі было нешта ад патрабавання азнаёміцца з ордарам на арышт.

– Ну, я… – на выдыху працягнуў старшыня калгаса «Чырвоны шлях».

– Значыцца, цябе я і чакаю, – госць нетаропка падняўся насустрач.

– А хто ты… хто вы такі? – гаспадар палахліва адступіў.

– Гэта ты загадаў могілкі на кургане распахаць, а надмагіллі на шчабёнку змалаціць? – утыркнулася жорсткае.

Ананій Міронавіч крыху ачомаўся ад першаснага шоку. У галаве ўключыўся працэс мыслення: на адказнага таварыша з райкама госць быў не падобны, а на мянта ці камітэтчыка і пагатоў. Дый не праз акно ж ім трапляць у хату старшыні самага перадавога ў раёне калгаса а дзявятай вечара… ды яшчэ з такім неістотным гаспадарчым пытаннем!

– Пайшоў на хер адсюль! – асмялелы Басота схапіў качаргу, але замахнуцца не паспеў: сталёвай моцы пальцы сціснулі яго запясце, і жалязяка бразнула аб падлогу.

Рука дзядзькі бліснула лязом. У жываце Ананія Міронавіча адразу матэрыялізаваліся шчыльна набіты страўнік, селязёнка, кішэчнік і гладкая пяшчотная пячонка. Воля да супраціву выпарылася імгненна. Дужыя, спрытныя і неласкавыя рукі абшукалі яго кішэні, зарыентавалі да фатэля і ўціснулі ў скураную сідзячку, якая адразу зрабілася цёплай і мокрай.

– Абсікаўся, – амаль спачувальна канстатаваў госць. – Ты што, фінкі ніколі не бачыў? Ці, можа, я такая пачвара?

– Не-не-не, зусім не пачвара! – горача запярэчыў Басота.

– То і не хвалюйся, – абнадзеіў незнаёмец. – Зараз на могілкі паедзем. Тамака «газон» каля канторы – твой?

– Ага… Як гэта на могілкі? – старшыня калгасу зацкавана вырачыў вочы. – А… навошта?

– Не для таго, каб цябе там жыўцом хаваць… Хаця ты таго і варты. То калі я цябе цяпер закапаю, хто ж твае паскудствы папрыбірае і надмагіллі на месца паставіць?

Ананій Міронавіч закуёўдзіўся на мокрай сідзячцы, заспіеў прыніжана:

– Усё зраблю ў лепшым выглядзе, анягож не… Толькі надмагіллі тыя зацяжкія, каб я адзін іх цягаў, тамака з тузін калгаснікаў трэба. Дый і нашто менавіта ўначы? Заўтра зранку папраўлю, слова гонару!..

– Нашто менавіта ўначы? А таму, што працы ў цябе дні на чатыры сама мала. І працаваць ты будзеш адзін, пакуль усё не зробіш. Раней пачнеш – раней вызвалю. Камяні і саматужкі адужаеш, нават не сумняюся: ты ж у нас Герой Сацыялістычнай працы!.. Усё, збірайся: ломік вазьмі, вяроўкі, сякеру, рыдлёўку і шуфлю. Цяжкая фізічная праца і не такіх перавыхоўвала!..

У словах госця пра перавыхаванне цяжкой фізічнай працай адчуваўся неабвержны практычны досвед, і Басота канчаткова вырашыў рабіць усё, што ад яго запатрабуюць.

– І штаны пераапрані, а то прастынеш і заўчасна памрэш… А мне гэтага пакуль што не трэба!

На тэлеэкране замільгала «Хроніка пяцігодкі»: Хрушчоў з кукурузінамі, Гагарын з піянерамі, фізікі з лірыкамі. Госць выключыў тэлевізар, прыадчыніў дзверы…

…Начныя дрэвы страсалі кроплі ў калюжыны. Ананій Міронавіч, пазэкаўску склаўшы рукі за спінай, паслухмяна тупаў паперадзе незнаёмца. Старшынёвы «газон» чужынскім браневіком грувасціўся каля канторы.

Мужчына ў начышчаных ботах намацаў у кішэні аўтамабільныя ключы і пасунуўся да дзвёркі кіроўцы…

Трэніраваны зрок знянацку зафіксаваў рэльефны рухомы цень – і нешта доўгае, шэрае і вельмі важкае, што імкліва ляцела проста ў голаў.

Ён усё ж паспеў ухіліцца – удар прыйшоўся не ў скронь, а ў патыліцу.

Сусвет закруціўся ў шалёным рытме, задзінкаў і імклівымі жарынкамі разляцеўся ўбакі...

* * *

Галасы гучалі глуха і блякла, бы з-пад пярыны. Першы, жаночы і нібы знаёмы, пераконваў, маўляў, гэты дзядзька адразу падаўся падазроным, вось і вырашыла прасачыць, куды пойдзе. Другі, мужчынскі і таксама знаёмы, абяцаў бандыта прынародна расстраляць, згнаіць на ўранавых рудніках, пасадзіць на кол і спаліць жыўцом, бо бандыт той зняважыў годнасць паважанага ў раёне калгаснага старшыні.

Паранены ляжаў ніцма на пачарсцвелай зямлі, каля старшынёўскага «газона». Шаргацеў ветрык у кустоўі, ля самага вуха чвякалі падэшвы, і кожны крок аддаваўся хваравітымі ўдарамі ў чэрапе – крохкім, рыхтык яечнае шкарлупінне. Спроба памацаць патыліцу атрымалася няўдалай: рукі былі надзейна звязаныя за спінай.

Удалечыні загойдаліся дзве жоўтыя кропкі, вуліца афарбавалася зменлівай электрычнасцю, гырчэнне аўтамабільнага рухавіка наблізілася і зрэзалася. Мякка чвякнула дзвёрка, і аматар мудрагелістых страт прамовіў з халуйскай інтанацыямі:

– Вось ён, Вікенцій Дамінікавіч, той самы фашыст… Залез да мяне ў хату, агітаваў супраць палітыкі партыі і ўраду ў галіне добраўладкавання савецкай вёскі, а потым захапіў мяне ў палон і паабяцаў на скрадзенай калгаснай машыне адвесці на могілкі, каб жыўцом закапаць!

Голас пасажыра легкавіка таксама падаўся параненаму знаёмым:

– Разбяромся, таварыш Басота… Дарэчы, вы што – выпівалі?

– Факцічаскі не выпіваў. А то як бы я ўзброенага ворага народа абясшкодзіў?

На апошняю фразу наклаўся старэчы ўздых, і жаночы голас дадаў нясмела:

– А яшчэ ён пытаўся – чаму мы, маўляў, жыццём не абураемся. А нашто абурацца – і горшае бачылі!.. Я яму дарогу на Нясвіж паказала, узяла дручок – і следам, бо падазроны занадта. Гляджу – а ён нашага паночка старшыню кудысь вядзе, відаць, на расправу. Што ж, думаю, з намі без калгаса станецца?!..

– Дапамагла мне ворага абясшкодзіць, дапамагла, – высокародна вызнаў Басота. – Вось, глядзіце, якіх узорных калгаснікаў мы выхоўваем: Агнешка Крукоўская, наша скотніца. Культурная жэншчына: дзеці ў яе, карова…

Дужыя рукі прыўзнялі арыштаванага з зямлі, прыгнулі галаў і пацягнулі да шэрай «волгі». Перад тым як машына паехала, Вікенцій Дамінікавіч пільна глянуў у твар пасажыра:

– Доўга ж мы вас, містар амерыканскі дыверсант, шукалі!..

## Глава 16

Старамодны чорны «рольс-ройс» глядзеўся у вечаровым трафіку Манхэтэна, нібыта саноўны лорд на рок-н-рольнай вечарынцы. Срэбная багіня ганарліва лунала па-над вуглаватым радыятарам. Зашморгнутыя фіранкі сведчылі пра таямнічы статус пасажыраў.

Ліўрэйны кіроўца камянеў за стырном, рыхтык сфінкс. Ён не зважаў ані на даўжэзны зялёны «плімут», які прыклеіўся яшчэ каля Цэнтральнага парка, ані на пранізлівыя аргазмічныя войкі, што даносіліся з-за перагародкі салона; праца ў Станіслава Альбрэхта Радзівіла навучыла не задавацца залішнімі пытаннямі нават у думках.

Лабавое шкло замятала электрычная завея. Юрлівыя стогны праціналі да дрыжыкаў. Зялёны лімузін каціў амаль бампер у бампер. Пераследнікі

колькі разоў спрабавалі было праціснуцца наперад, але кіроўца трапным дараротам стырна спыняў падазроны манеўр.

Непадалёк ад Таймс-сквера пажадлівыя гукі ў салоне сцішыліся. «Плімут» крыху паадстаў. Паперадзе расцягнуўся затор мінімум на мілю. З-за перагародкі патыхнула шляхотным дымком кубінскай цыгары, у які ледзь заўважна ўпляталася аскомістая нітка канабісу.

Кіроўца апусціў шкло дзвёркі і механічна адзначыў, што тытунёва-наркатычны букет узбагаціўся нязвыклым жывым водарам, які прымусіў імгненна пазабыцца на ўсе штучныя пахі. Водар відавочна наплываў ад старэнькага дзюралевага трэйлера на ўзбочыне.

І тут на прыборным шчытку замігцеў чырвоны агеньчык. Гэта азначала, што кіроўцу належыць неадкладна спыніцца, выйсці з машыны і суправаджаць пасажыра туды, куды таму трэба.

* * *

Шлёма Шапіра спрытна скінуў з патэльні свежаспечаныя бурштынавыя круглякі, ссыпаў у місу і меланхалічна зазначыў, што ягоны hand made – адзіная натуральная рэч сярод ілюзорнага шыку Таймс-сквера. Арон сунуў пару дранікаў у папяровы пакет, фіксавана пасміхнуўся кліенту і глянуў яму за спіну; чаргі да трэйлера не было...

Фургончык з шыльдай «Шапіто» стаяў у цэнтры Манхэтэна ўжо хвілін сорак. Дранікі раздаваліся проста задарма. Згодна з бізнэсовай стратэгіяй містара Шапіры, публіку трэба было спярша азнаёміць з новым прадуктам, і ўжо калі тая падсядзе на дранікавую голку, перайсці да наступнага этапу.

Рэпрадуктар на дзюралевым даху рэгулярна расстрэльваў Таймс-сквер скарагаворкай: маўляў, карпарацыя братоў Шапіраў мае гонар прапанаваць сакральную страву таямнічага народу пярэваратняў, які жыве за жалезнай заслонай. Асобна падкрэслівалася, што дранікі выпякаюцца па рэцэпце тамтэйшай варажбіткі, падвышаюць імунітэт, нішчаць бацылы, спрыяюць аптымістычнаму погляду на жыццё і за пэўнымі ўмовамі могуць ператварыць звычайнага нью-ёркера ў дэманічную істоту.

Нягледзячы на крэатыўны паблісіці і процьму патэнцыйна галодных кліентаў, ахвочых пакаштаваць нават задарма выявілася небагата. Прычынай правальнай прамоцыі была шкляная стадола з гіганцкай літарай «М», што свяцілася насупраць. Праз жоўтыя вокны прагдядалася бітма набітая зала; публіка пажырала гамбургеры са спрытам землярыйных машын. Клоўн Рональд МакДональд у бязглуздым ружовым парыку вытанцоўваў на паркінгу каля фаст-фуду, спакушаючы галодных і недасведчаных рэкламнымі буклетамі.

Вечаровыя фасады сляпілі штучнымі сузор'ямі. Шкляныя дзверы канкурэнтаў не паспявалі ў руху. Натоўп абыякава абцякаў фургон з экзатычным фаст-фудам. Браты зажурыліся; «Шапіто» ўжо быў у глыбокім мінусе…

Раптам Рональд МакДональд спыніў танцы і здзіўлена ўтаропіўся ў бок трэйлера. Мінакі запаволілі хаду. Шлёма вызірнуў вонкі, ачмурэла хаўкнуў і праліў бульбяное цеста на чаравікі.

Блізка «Шапіто» браненосна прышвартаваўся мільянерскі «рольс-ройс» з зашморгнутымі фіранкамі. Ліўрэйны кіроўца паважна прыадчыніў пасажырскую дзвёрку. У паўцемры салона бліснула шляхотная скура. Зашаргацеў ядваб, цокнулі абцасы, шыкоўная бяляўка схіліла цэлулоідны тварык да акенца трэйлера.

І тут за «рольс-ройсам» пранізліва завішчэў гальмамі зялёны «плімут». З салона высыпала банда рэпарцёраў. Яны імгненна абступілі красуню

шчыльным паўколам і ўзвіліся над ёй, нібы вупыры над анёльчыкам. Зашчоўкалі фотаапаратныя затворы, у вусны дзявулі ткнулася колькі мікрафонаў.

– Ці праўда, што Джон Фіцджэральд Кенэдзі стаў вашым чарговым каханкам? – засакатаў першы.

– Для ложка нашага прэзідэнта я яшчэ недастаткова разбэсная! – адпарыравала харашуня ці то з цнотай, ці то са шкадаваннем.

– Значыцца, вы вярнуліся да папярэдняга каханка, містара Радзівіла? – другі рэпарцёр бессаромна зазірнуў дзявулі ў дэкальтэ.

– Для ложка містара Радзівіла я яшчэ недастаткова разумная, – бяляўка гарэзліва пасміхнулася Арону Шапіру. – Ваў, няўжо гэта тыя самыя бульбяныя блінчыкі, дзякуючы якім можна перакінуцца ў пярэваратня? Са смятанай, калі ласка!...

– Але ж вы ўжо тры гадзіны запар катаецеся па Манхэтэне ў лімузіне з зашморгнутымі фіранкамі! І лімузін гэты, як мы дакладна ведаем, належыць менавіта Станіславу Альбрэхту! – нагадаў трэці і выразна скасавурыўся на дзвёрку «рольс-ройса» з радзівілаўскім гербам «Трубы».

– Я ўражаная вашай назіральнасцю. У салоне мяне сапраўды чакае мой стары сябра Стэсі. Але мушу вас расчараваць: час, які містар Радзівіл пагадзіўся прысвяціць мне, мы вытрачаем выключна на этнапалітычны дыспут. Цікава, джэнтльмены, ці згодныя вы з наступнай тэзай князя: платформай для пабудовы ідэалогіі посткаланіяльных дзяржаў могуць стаць нават размытыя нацыянальныя маркеры, гэткія культурніцкія сімулякры, кшталту этнаграфічнага адзення ці традыцыйнай кулінарыі?..

На рэпарцёрскіх тварах з'явіўся выраз, які бывае ў людзей пасля гадзіны безвыніковага сядзення на ўнітазе. Бяляўка з асалодай даела дранікі, эратычна аблізала наманікюраныя пальцы і ўдзячна пасміхнулася ў акенца трэйлера.

– Колькі я вам вінная?

– Нікольк, – Арон глядзеў на красуню ашклянелымі вачыма; ён відавочна не верыў, што ўсё гэта адбываецца насамрэч.

Шлёма шчодра сыпануў у пакет стос залацістых круглякоў і задыхнуўся ад шчасця.

– Гэта для майго найдаражэйшага сябра, містара князя Радзівіла! Сёння ў нас прамоцыя, і мы частуем усіх задарма!

Бяляўка паклала на прылавак стодаляравую купюру.

– Тады гэта ад мяне на знак падзякі. Нават не сумнявайцеся, джэнтльмэны: вашыя дранікі каштуюць куды большых грошай!..

Прастора вакол трэйлера за якую секунду ўтрамбавалася натоўпам. Мужчыны цягнулі шыі і прыўзнімаліся на дыбачкі, жанчыны фатаграфічнымі позіркамі фіксавалі туфлікі, сукню, радыкюль і фрызуру. Спакусніца азначыла рух да «рольс-ройса». Да ўлюбёнкі публікі пацягнуліся рукі з асадкамі, алоўкамі, нататнікамі і рэкламнымі буклетамі «МакДональдса».

Бяляўка выхапіла з працягнутай рукі фламастар, накрэмзала на плоскасці трэйлера колькі ўзнёслых слоў і знікла ў лімузіне.

Шлёма Шапіра праводзіў «рольс-ройс» поглядам беспрытульніка, які толькі што выйграў у латарэю мільянерскі палац. Да «Шапіто» ўжо змяілася даўжэзная чарга; праз хвіліну яна расцягнулася на два кварталы.

– Арончык, схадзі да гэтага клоўна Рональда, пацікаўся, за колькі яго гаспадары згодныя прадаць свой збанкрутаваны гадзюшнік, – спакойна мовіў ён брату.

* * *

Чорны «рольс-ройс» плыў у шчыльным трафіку Пятай Авеню. Неонавыя

д'яблы абсыпалі лімузін каляровым жвірам. Каля гатэля «Плаза» аўтамабіль адслаіўся ад руху, прыгальмаваў. Стэсі Радзівіл сеў у салон, пытальна паглядзеў на Мэрылін Манро і яшчэ больш пытальна – на Джона Кенэдзі.

Прэзідэнт лянотна запаліў цыгару. Акторка пацягнулася было па касяк з канабісам, але перадумала і захрумсцела свежаспечаным дранікам.

– Усе газетчыкі – ідыёты, – канстатавала яна. – Яны вераць толькі ў тыя міфы, якія самі і ствараюць. Маўляў, Кенэдзі – гэткі сучасны кароль Артур, які разам з цнатлівай каралеўнай Жаклін будуе ў Амерыцы чароўны Камелот... ці Новы Іерусалім, ці Вернуты Рай – як каму падабаецца. А каралі не паляць марыхуану, не жлукцяць ром і не спяць з іншымі жанчынамі. Калі б тыя ёлупні напісалі, што прэзідэнт Злучаных Штатаў тры гадзіны запар трахаў мяне ў лімузіне свайго найлепшага сябра проста ў цэнтры Манхэтэна, для нашага агульнага з Джэкі задавальнення – ім бы ніхто не даў веры.

– Але чуткі пра нешта падобнае іншым разам цыркулююць па каралеўстве, – падхапіў прэзідэнт Злучаных Штатаў. – І, здараецца, даходзяць нават да Кангрэсу. Мяркую, заўтрашніх газет будзе дастаткова для іх абвяржэння. Так што дзякуй табе, Стэсі, за кэб!

– І за ідэю! – дадала акторка.

– Але ўвесь гэты час ты быў без аховы, – нагадаў Радзівіл. – А калі б цябе застрэлілі?

– …амерыканцы абралі б новага прэзідэнта, – супакоіў Кенэдзі.

«Рольс-ройс» важка каціў па Бруклінскім мосце. Прэзідэнцкая цыгара дымілася ў крышталёвай попельніцы. Акторка з асалодай хрумсцела дранікамі, і яе гарачы вільготны рот навяваў на фрэйдысцкія алюзіі.

– Між іншым я сёння атрымаў адказ ад містара Хрушчова, – паведаміў Джэкі. – Ён у прынцыпе згодны на нашу прапанову абмяняць Кубу на мару ўсяго твайго жыцця. Але ж, Стэсі, калі па-шчырасці, я ніяк не магу зразумець: нашто табе спатрэбіліся ўсе тыя рыцары, калгасы і іншае сярэднявечча ў нейкай забытай Богам зямлі… Ты заўсёды лічыў сябе польска-амерыканскім касмапалітам!

Стэсі ўзяў у рукі пакет з сакральнай стравай пярэваратняў, панюхаў, прымружыўся.

– Нехта вяртаецца на Радзіму, каб атрымаць спадчыну. Нехта – каб наведаць магілы продкаў. Нехта – каб пабачыць сваякоў. А я хачу проста вярнуцца.

**Глава 17**

– З вяртаннем на Радзіму, містар амерыканскі дыверсант! – маёр Пяткевіч глянуў на арыштаванага з дазаванай іроніяй, уключыў настольную лямпу і зашаргацеў паперамі. – Радзіма, як бачыце, на вас не забылася…

АГЕНТ Z СЯДЗЕЎ НАСУПРАЦЬ, ПРАЗ СТОЛ, НА ПРЫШРУБАВАНЫМ ДА ПАДЛОГІ ЗЭДЛІКУ. ЛЕВАЯ РУКА ЯГО БЫЛА ПРЫКАВАНАЯ КАЙДАНКАМІ ДА БАТАРЭІ, ПРАВАЯ ЗВІСАЛА ДОЛУ. ГРАНІТНЫ ЧЭРАП ЦЯМНЕЎ ГЕМАТОМАЙ.

На твары не чыталася ані ірацыянальнага страху, які спрэс накрывае ў КГБ шараговых савецкіх грамадзян, ані нават хвалявання – толькі роўная і непрыхаваная агіда.

– Давайце па-парадку, – з казённай добразычлівасцю прапанаваў Вікенцій Дамінікавіч. – Па дакументах вашых заакіянскіх гаспадароў вы праходзіце як «Агент Z». Падчас вашай працы ў фашысцка-нацыяналістычным падполлі вас называлі «Місь», «Лось»

і «Рысь». А як гучыць вашае сапраўднае прозвішча?

– У мяне было шмат жыццяў, і ўсе іх я пражыў бязлітасна. У кожным з гэтых жыццяў у мяне было сваё імя. І я ўжо сам не ведаю, якое з іх сапраўднае.

– Я б усё ж парэкамендаваў вам супрацоўнічаць са следствам, – спагадліва пасміхнуўся камітэтчык. – Тым больш вашае сапраўднае імя нам і так добра вядомае. Але нам трэба, каб вы назвалі яго самі.

Агент Z дэманстратыўна прамаўчаў. Пяткевіч вытрымаў аптэкарскую паўзу, перайшоў да наступнага пункта:

– Пятнаццаць дзён таму вы разам з двума дыверсантамі, падрыхтаванымі ЦРУ, дэсантаваліся блізка Нясвіжа. Дыверсантаў мы абясшкодзілі на месцы. А вось ваш парашут знойдзены нераскрытым. Як у вас атрымалася ацалець?

– Перакінуўся ў птаха і зляцеў, – растлумачыў Агент Z надзіва будзённа, нібы гаварыў пра праполку бульбы.

– У якога такога птаха? – сумеўся Пяткевіч.

– У звычайнага. З дзюбай і крыламі.

– А чаму не ў свінню? – чэкіст здзекліва падхапіў інтанацыю суразмоўцы. – Быць свіннёй, містар амерыканскі дыверсант, у вас атрымалася б куды больш прыродна.

Арыштаваны глянуў у закратаванае вакно. Графітныя галінкі раскрэслівалі маціцовую шэрань вуліцы. Ватныя дымкі з комінаў уклейваліся ў халодны лакавы заход. Клін жураваў праплываў над панурымі шыфернымі дахамі.

– Можа, я і перакінуўся б у свінню, ды толькі Бог свінням крылаў не даў…

Вікенцій Дамінікавіч выпрастаўся, змерыў падследнага суворым паглядам, даючы зразумець, што жарты скончаныя і што цяпер пачнецца допыт па ўсіх правілах чэкісцкай навукі.

– Але ж выкрутасы, якім вы навучыліся ў заакіянскіх імперыялістаў, вам так і не дапамаглі, – засведчыў ён пераможным голасам радыёрэпрадуктара. – Наш народ рашуча адмятае беларускі нацыяналізм, у чым вы самі і пераканаліся. Першая ж калгасніца вас і затрымала!

– Наш народ – то ўзяты ў палон дзіцёнак. Іншага жыцця, апроч як турэмнага, ён не бачыў, таму і лашчыцца да чужынцаў, якія не даюць яму сканаць з голаду, – цвёрда запярэчыў Агент Z. – І перамагчы ў такіх варунках можа толькі пярэварацень, чалавек з чужым аблiччам. Тут усе глабальныя задачы вырашаюцца адно праз падман: калі ўдаеш з сябе каго-небудзь іншага і дбайна маскуеш сапраўдную мэту…

– Ад-ставіць антысавецкую агітацыю! – камітэтчык ляпнуў далонню па стальніцы. – Гэтага вам Радзіма таксама не даруе!..

Агент Z стрэліў у гаспадара кабінета пранізлівым поглядам, маўляў, распінацца ў КГБ пра Радзіму – тое ж самае, як у бардэлі згадваць пра каханне.

Было відавочна: адказваць на пытанні падследны не стане. Вікенцій Дамінікавіч дарэчна прыгадаў пра халодную галаву, гарачае сэрца і чыстыя рукі, упікнуў сябе за выбух эмоцый і змякчыў інтанацыю:

– Хацеў з вамі па-добраму. Але бачу, не атрымаецца. Давядзецца перадаць вас жорсткім і бязлітасным людзям, якія ў нас акурат і спецыялізуюцца на паліцаях, шпегах і антысаветчыках. Распішыцеся нанізе пратакола, што адмаўляецеся ад дачы сведчанняў.

Агент Z узяў асадку, і мозг камітэтчыка прапаліў імгненны электрычны разрад: на безыменным пальцы падследнага цьмяна бліснуў пярсцёнак цяжкага старажытнага срэбра з таямнічымі надпісам. Пяткевіч бразнуў ключамі пад сейфавай дзвёрцай, нецярпліва дастаў папку, дасланую яму яшчэ ў ліпені з самае Лубянкі…

Прагляд фотаздымкаў, зробленых на даху нью-ёркскага хмарачоса, адмёў усе сумневы: безумоўна, гэта быў той жа самы пярсцёнак, які ўпрыгожваў руку вядзьмаркі-антысаветчыцы Ганны Францаўны Рымшы падчас яе размовы з прэзідэнтам Кенэдзі.

– Ледзьве не забыўся: у следчым ізалятары ювелірныя аздобы забароненыя, так што пярсцёнак давядзецца зняць, – як бы між іншым заўважыў чэкіст.

Арыштаваны незалежна таргануў падбароддзем з глыбокай гранёнай ямінкай.

– Толькі з пальцам.

– Можна і з пальцам, – знізаў плячыма Вікенцій Дамінікавіч.

Рука дыверсанта разняволена ляжала на аркушы пратакола, у роўным конусе настольнае лямпы. Бліскучы абадок на сухой фаланзе выглядаў ажурнай цацкай. Срэбныя блікі дрыжэлі на бліжняй сцяне.

Чэкіст звузіў вочы і ледзь заўважна напружыўся, бы драпежнік перад кідком.

– Не раю, – надзіва спакойна папярэдзіў Агент Z, не прыбіраючы руку з пярсцёнкам. – Толькі сабе нашкодзіце…

Таварыш маёр учапіўся ў палец – і войкнуў, нібы крануў аголены высакавольтны дрот. Цела праццяла ледзяная голка, па-садысцку пашкрабала рэбры і пазванкі, утыкнулася ў сэрца й трансфармавалася ў пачварных памераў бур. Бліскучы свердзел завішчэў і з бяздушным аўтаматызмам занурыўся ў пяшчотнае нутро, намотваючы на рыфлёную сталь ніцяныя ашмёткі нерваў. Пад чэрапам надзьмулася і адшпокнула бурбалка, крышталёва блямкнуў званочак, і масіўная стальніца імкліва ўрэзалася ў лоб.

Апошняе, што пачуў начальнік нясвіжскага райаддзела КГБ, была засяроджаная скарагаворка:

– Йшла Мамка Прачыстая па полі чыстаму, пад зялёным дубочкам села, перад печкай белай самлела. Як у печы ад агню жарка, каб мне нячыстага не было жалка, па гэты час па гэтую мінуту…

* * *

Вікенцій Дамінікавіч ачуняў ад мярцвянага месяцовага святла, якое праз закратаванае вакно лупіла проста ў твар. Ён ляжаў на падлозе, хаця добра памятаў, што зваліўся лобам у стол. Райаддзел камянеў глыбокай начной цішынёю. Гадзіннік на стале паказваў чвэрць на другую. Арыштаванага ў кабінеце не было; на батарэі здзекліва пагойдваліся расшпіленыя кайданкі.

Пяткевіч ачмурэла глянуў на пусты зэдлік, дзе яшчэ нядаўна сядзеў амерыканскі дыверсант, зазірнуў пад стол, спыніў рух кайданкоў…

– Фашыст, – прашаптаў ён здранцвелым голасам. – Пярэварацень. Вось так і верыць людзям…

У спустошанай галаве танютка высвіствала. Знікненне падследнага супярэчыла законам прыроды, здароваму глузду і асновам марксісцка-ленінскага матэрыялізму. Чэкіст яшчэ раз глянуў на кайданкі, зноў зафіксаваў поглядам пусты зэдлік і паспрабаваў быў сабрацца з думкамі.

На добры розум, навучаны ў ЦРУ шпег мог у нейкі цуд вызваліцца ад кайданкоў і выбегчы на калідор, але там бы яго неадкладна спынілі. Дый нанізе дзяжурыў узброены сурацоўнік… Альтэрнатывай дзвярам і калідору была толькі прыадчыненая фортка. Але выглядала яна занадта малой для дарослага чалавека, не кажучы ўжо пра зусім вузкія краты на шыбах. Праз фортку і краты сапраўды мог пралязаць толькі птах.

Таварыш маёр разгублена пашукаў вачыма і спыніў погляд на партрэце над сталом. Фелікс Эдмундавіч грэбліва падціскаў вусны, і вочы яго ззялі халоднай пагардай. Пяткевіч зглынуў

і нервова таргануў кадыком – ён выразна адчуваў у роце смак лайна.

Знянацку аднекуль пранізліва засмуродзіла паленым. Чэкіст недаверліва пацягнуў носам, напружыўся і асцярожна прыадчыніў дзверы. У калідоры клубіўся шчыльны шэры дым, які заляпляў гартань і выядаў вочы. З дзяжурнай часткі на першым паверсе пачуўся трывожны лямант, на які наклалася прыдушанае: «Гарым!..» Бразнулі дзверы, ценькнула шкло. У райаддзеле міліцыі, які месціўся ў той жа будыніне за сцяною, азначыўся панічны рух.

Задушлівы шэры шлейф ужо напліваў пад дзверы, рыхтык «Цыклон-В» у нацысцкую газавую камеру. Перад тым як выбегчы, Вікенцій Дамінікавіч агледзеў кабінет. На стале жаўцела тэчка крымінальнай справы Агента Z з каліграфічна выведзеным прозвішчам фігуранта-пярэваратня:

*ВІТУШКА МІХАІЛ АПАНАСАВІЧ*

Чэкіст зачыніў папку ў сейфе, набраў у лёгкія паветра і кінуўся ў задымлены калідор.

* * *

Пажар у нясвіжскім райаддзеле КГБ згасілі толькі на раніцу. Усю ноч каля двухпавярховіка па Савецкай блішчэлі каскі, грукацелі вадавозкі і ўвіхалася мясцовае начальства, вымахваючы рукамі, нібы звар'яцелыя куры крыламі. З праваленых вокнаў падымаліся тлустыя дымавыя слупы. Вясёлыя блакітныя агеньчыкі змяіліся па стрэхах.

Вікенція Дамінікавіча на пажары не было: седзячы ўдома, ён засяроджана аналізаваў перажытае і прыкідаў перспектывы.

Таямнічыя ўцёкі злачынцы вымагалі неадкладнага рапарта; выпадак для Камітэта быў проста беспрэцэдэнтны. Аднак пажар у райаддзеле Дзяржбяспекі ўвогуле стаў катастрофай касмічных маштабаў, прычыны якой таксама трэ было растлумачыць.

Пісаць у рапарце праўду не выпадала. Калі б Пяткевіч проста намякнуў на магчымую ўзаемасувязь паміж зніканнем амерыканскага шпега і ягонымі словамі пра перакіданне ў птаха, камітэтчыка імгненна выправілі б у вар'ятню. Калі б ён дапусціў, што ўзгаранне магла выклікаць этнаграфічнавядзьмарская замова, – яго б закалолі ў той вар'ятні псіхатропамі.

У найбліжэйшай перспектыве маёра КГБ адназначна чакалі следства Асобай інспекцыі, трыбунал, суд і далёкі лагер. Пазбегнуць ганьбы можна было класічным спосабам: сунуць у рот табельны «макараў» і націснуць на гачак, папярэдне завесіўшы коўдрай сцяну за патыліцай, каб не заляпаць яе крывёю.

Аднак і страляцца не выпадала таксама: у такім разе ў клініку немінуча выправілі б жанчыну, дзеля якой ён і жыў…

Жанчына гэтая ўжо адзінаццаць гадоў нерухоміла ў інвалідным вазку ў суседнім пакоі. Яна не была жонкай Вікенція Дамінікавіча – яна ўвогуле нікім афіцыйна яму не з'яўлялася.

Напрыканцы сорак чацвёртага малодшаму лейтэнанту НКГБ Пяткевічу вызначылі месцам жыхарства доўгі цагляны аднапавярховік на Альбяньскай, падобны адначасова да школы і да казармы. Дом гэты, як і шмат іншых дамоў у тагачасным Нясвіжы, быў амаль пусты: некага забілі немцы, некага – партызаны, нехта сышоў у лес да антысавецкіх бандытаў, нехта ўцёк на Захад. У бакавым пакойчыку ў нейкі цуд ацалела сціплая мілая дзяўчына з маркотнымі, бы ў Божай Маці Вастрабрамскай, вачыма. Усе спробы загаварыць з ёй былі марнымі: дзяўчына ўпарта маўчала, хаця нямой не была напэўна. Яна бязрадасна прымала апекаванне маладога чэкіста, іншым разам нават вячэрала

з ім, але за ўвесь час не прамовіла ані слова. Увечары сядала да вакна і гадзінамі ўглядалася ў ціхі бязлюдны сад: ці то кагось чакала, ці то проста думала.

Чэкіст асцярожна высветліў яе асобу, але тут усё было, як ва ўсіх: Яна Адамаўна Нябога нарадзілася ў Нясвіжы, у гэтым самым доме, гадавалася-вучылася, бацькі загінулі, сваякоў параскідала вайною…

Аднойчы Вікенцій Дамінікавіч злавіў сябе на тым, што па вечарах, вяртаючыся са службы, ён штораз углядаецца ў шыбы бакавога пакойчыка і цешыцца думкай, што Януся, напэўна, яму ўзрадуецца. Раз на тыдзень ён прыносіў гасцінцы з чэкісцкага спецразмеркавальніка. Дзяўчына прымала іх без падзякі, седзячы ля вакна – прыўкрасная, маўклівая і безабаронная. Пяткевіч муліўся, нерваваўся, худнеў, пакуль аднойчы не адчуў, што Яна стала часткай ягонага жыцця. Неяк ён паспрабаваў сказаць ёй пра пачуцці, але ў яго не атрымалася нават банальнага «Я кахаю цябе»: словы засохлі ў горле і выклікала горкі кашаль.

ЗА АДЗІНАЦЦАЦЬ ГАДОЎ НА ТВАРЫ ЯНУСІ НЕ З'ЯВІЛАСЯ АНІВОДНАЙ ЗМОРШЧЫНЫ. ВОПРАТКА НА ЁЙ ЧАМУСЬЦІ НЕ ПЭЦКАЛАСЯ І НЕ ПАРАХНЕЛА, А ЦЕЛА НЕ ПАТЫХАЛА НІЧЫМ: ЯНЫ ПРОСТА ЗАКРЫЛАСЯ ПЯЛЁСТКАМІ, РЫХТЫК НАЧНАЯ КВЕТКА. ГАДОЎ ДЗВЕСЦЕ ТАМУ ЯЕ, НАПЭЎНА Б, ВЫЗНАЛІ СВЯТОЙ.

У пяцідзясятым надарылася катастрофа: аднойчы ўвечары дзяўчына села ў фатэль каля вакна, ды так і не паднялася. Януся не рэагавала на гукі, святло, пахі і ўсе штучныя раздражняльнікі дактароў – ад малаточка неўрапатолага да электрычных разрадаў. Але эмалевыя вочы яе заставаліся расплюшчанымі, і вочы гэтыя ўпарта і чакальна глядзелі ў сад. Яна не ела, не піла, не падымалася па натуральных патрэбах, але, здавалася, крыху дыхала і зрэдку нават торгала вейкамі.

Пяткевіч перасадзіў яе ў інвалідны вазок, карміў вітамінамі і добрасумленна вывозіў на шпацыр. За спінай з'едліва шапталіся, але прамовіць нешта ўголас ніхто не наважваўся. Чэкіст вазіў яе ў Мінск і ў Маскву, але найдасведчанейшыя дактары толькі нізалі плячыма: маўляў, незвычайная хвароба, ніколі не сутыкаліся, лепш здайце яе ў спецінтэрнат ад граху падалей…

За адзінаццаць гадоў на твары Янусі не з'явілася аніводнай зморшчыны. Вопратка на ёй чамусьці не пэцкалася і не парахнела, а цела не патыхала нічым: яны проста закрылася пялёсткамі, рыхтык начная кветка. Гадоў дзвесце таму яе, напэўна б, вызналі святой. Але цяпер былі іншыя часы, і суседзі казалі цішком: «Ну, прачнецца яна калі-небудзь, акруціцца са сваім кагэбістам, з'ездзіць з ім у Сочы і пойдзе капаць бульбу, як і ўсе мы тут…»

Два тыдні таму засвяцілася надзея. На апошнім З'ездзе партыі сам таварыш Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў урачыста паабяцаў: наступнае пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме. А пры камунізме, як свята верыў Вікенцій Дамінікавіч, усе праблемы чалавецтва будуць вырашаны і ўсе хваробы пераможаны – у тым ліку і самыя незвычайныя. Адно пакаленне вызначалася дваццацігадовым прамежкам; Вікенцій Дамінікавіч меў усе падставы спадзявацца на лепшае.

Але цяпер усім спадзяваннем настаў канец…

…Раніцою начальнік райаддзела КГБ затэлефанаваў у паліклініку і паведаміў, што наглынаўся на пажары атрутнага дыму, але будзе лекавацца саматужкі. Набраў абласное Упраўленне і паведаміў тое ж самае, дадаўшы, што па хуткім часе напіша пра антысавецкую дыверсію падрабязны рапарт. Звязаўся з падначаленымі, адключыў тэлефон, зашморгнуў парцьеры. Спаліў у печцы некаторыя фотаздымкі, напісаў тэстамент, у якім паабяцаў далёкаму сваяку ўсю рухомую і нерухомую маёмасць у тым разе, калі ён возьме на сябе клопат пра інваліда I групы гр. Нябогу Я. А.

Пагаліўся новым лязом, надушыўся адэкалонам «Русский лес», апрануў парадную форму з дзяржаўнымі ўзнагародамі. Пачысціў табельны «макараў», зарадзіў адным набоем і выклаў праваруч.

І, нарэшце, выцягнуў з-пад ложка скрыню каньяку, якую трымаў на святкаванне саракагоддзя, і дзве чаркі: адну сабе, а другую – мармуроваму бюсту на століку.

– Ну што, Фелікс Эдмудавіч, – камітэтчык акуратна адкаркаваў пляшку. – Не спраўдзіў я тваіх спадзяванняў, ты ўжо выбачай. Давай усё ж вып’ем за хуткую перамогу камунізму, якой мне ўжо не пабачыць. Але ж мая Януся абавязкова дажыве да яго – праўда?

**Глава 18**

– Блядзі вы, дарагія таварышы па партыі, – Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў прамакнуў насоўкай лысіну і пранізліва зашморгаў мяккім старэчым носам. – Брудныя прадажныя блядзі, рабалепныя перад Захадам. Учора вы страцілі Кубу. Сёння партбілеты прасерыце. А заўтра што – Савецкі Саюз?

Кабінет савецкай амбасады ў Вашынгтоне нагадваў станцыю маскоўскага метро: мармур, бронза і гіганцкае мазаічнае пано «Увод у эксплуатацыю Брацкай ГЭС». Седзячы за сталом, Хрушчоў гучна сморкаўся ў нясвежую насоўку і трагічна скуголіў, не саромечыся паплечнікаў. Па хуткім часе ён меўся падпісаць з Кенэдзі сакрэтную дамову, паводле якой на Кубе аднаўлялася ўлада Фідэля, а наўзамен у Савецкім Саюзе ствāралася аўтаномная Выспа Свабоды. Падпісваць дамову не хацелася, тым больш што вінаватымі ў геапалітычнай катастрофе былі менавіта дарагія таварышы.

Першы сакратар ЦК КПСС рыдаў хвілін пяць. Таварышы паўцягвалі галовы ў плечы: гэта было кепскім знакам. Перад тым як каго-небудзь растаптаць, пашкуматаць і выкінуць на ідэалагічную памыйку, Мікіта Сяргеевіч абавязкова заходзіўся слязьмі, бы згаладалы кракадзіл перад вячэрай.

Нарэшце, Хрушчоў стаміўся енчыць, выцер чырвоныя вочкі і запытаўся з адчужанай журботай:

– Можа, дарагія таварышы, хтонебудзь хоча выказацца ў парадку крытыкі і самакрытыкі?

Твары таварышаў умомант стухлі, рухі запаволіліся. Зрэнкі бліснулі лёдам, і ў гэтых зрэнках чыталася жаданне як мага хутчэй зліцца з інтэр’ерам.

– Можна я? – нечакана для ўсіх падняў руку Шэлепін.

Мікіта Сяргеевіч глянуў крыху здзіўлена.

– Ну давай, Шурык…

Старшыня КГБ раскрыў папку колеру сырога мяса, афіцыйна адкашляўся ў кулак.

– Міхаіл Андрэевіч Суслаў, член Палітбюро ЦК КПСС. Адданы патрыёт Савецкага Саюза. Палымяна прапагандуе тэорыю марксізму-ленінізму, бязлітасна выкараняе ідэалагічныя дыверсіі. Любіць каўбасу «Сервілат крамлёўскі сыравэнджаны». Штодня харкае ў суп асабістаму кухару і прымушае гэты суп есці. Ідэйна перакананы гамасэксуаліст, сістэматычна разбэшчвае піянераў і школьнікаў у дзіцячых дамах…

Галоўны ідэолаг СССР зблялнеў, хліпнуў горлам і схапіўся за сэрца, але знайшоў у сабе моц абвергнуць абвінавачванне ідэалагічна роўным тэнарком:

– Контррэвалюцыйны паклёп і варожыя інсінуацыі…

Шэлепін паказальна не адрэагаваў на заўвагу, смачна захрабусцеў наступным аркушам.

– Радзівон Якаўлевіч Маліноўскі. Маршал Савецкага Саюза, член ЦК і міністр абароны…

Маліноўскі абапёрся масіўнымі кулакамі аб палісандравую стальніцу, важка прыўзняўся і наліўся злавесным барвовым ззяннем.

– Ды ты, мудазвон гэбэшны, на сябе лепш паглядзі!.. – зароў ён голасам начальніка гарнізоннай гаўптвахты. – Хто загнаў парадны мундзір таварыша Сталіна чарнажопай скаціне Патрысу Лумумбу? У абмен на чатырнаццаць алмазаў… хіба не ты?

– А ці не падкажаш, таварыш Шэлепін, у каго гэта цэлых тры элітных бардэлі ў прыватнай уласнасці? – у роўнай дыпламатычнай інтанацыі пацікавіўся міністр замежных спраў Андрэй Андрэевіч Грамыка. – У Маскве, у Сочы і ў Нью-Ёрку…

– Па-першае, спецбардэль у Нью-Ёрку мы адмыслова і арганізавалі для Міністэрства замежных спраў, на што ёсць адпаведнае рашэнне ЦК… каб твае дыпламаты па капіталістычных бардэлях не бегалі, – спакойна адпарырваў старшыня Камітэта Дзяржаўнай Бяспекі. – Па-другое, усё адно бегаюць, і гэта ўжо твой недахоп у палітыка-выхаваўчай рабоце. А па-трэцяе, таварыш Грамыка, слабо нам тут расказаць, як ты ў трыццаць першым годзе падмануў Партыю, перапісаўшы ў анкеце нацыянальнасць з «беларуса» на «расійца»? А як у сорак пятым на прыёме ў Чэрчыля спіздзіў срэбную лыжачку?

Мікіта Сяргеевіч назіраў на спрэчкай таварышаў па партыі блакітнымі ад ласкавасці вачыма. На шчырасць яны былі здольныя толькі ў стане апошняй прыніжанасці. Але таварышаў цяпер абліваў памыямі не Першы сакратар ЦК КПСС, і гэта асабліва цешыла ягонае сумленне.

– А ну цыц, ахламоны!.. – гаркнуў Хрушчоў. – Не на таўкучцы! З вамі ўсімі я потым разбяруся. А цяпер – вячэра! І думайце, думайце, як нам з Кенэдзі з-за Кубы таргавацца.

Падавальшчыкі, бязгучна ўціскаючы падэшвы ў кілім, спрытна расставілі прыборы, графіны і талеркі з закускамі. Прысутныя зашкрабалі відэльцамі, зачвякалі. Мікіта Сяргеевіч наліў, узважыў, прымружыўся:

– Ну што, дарагія таварышы… за перамогу камуністычнай ідэалогіі ва ўсім свеце!.. Дык вы прапанову Кенэдзі чыталі?

– Чыталі, раіліся, і мяркуем, што нічога невыгоднага для нас у той прапанове няма, – вальнадумна засведчыў Шэлепін і зухавата накаціў кілішак гарэлкі. – Мы атрымліваем назад Кубу, і гэта галоўнае. Наўзамен аддаём малюпаценькі кавалак тэрыторыі з малюпаценькім працоўным рэсурсам. Дзе амерыканскія імперыялісты паспрабуюць збудаваць малюпаценькую рэакцыйную псеўдадзяржаўку, гэткі прышчык Заходняга Берліна на магутным целе СССР. Але ж там застануцца нашы, савецкія людзі! Па хуткім часе яны, узброеныя ўсёпераможнымі ідэямі марксізму-ленінізму, скінуць жменьку эксплуатататараў і адновяць уладу працоўнага класа, калгаснага сялянства і народнай інтэлігенцыі.

Міністр замежных спраў Грамыка пасмакаваў калекцыйны каньяк, зажаваў празрыстай мядовай грушай, пракаментаваў разважліва:

– Аднак пакуль тая марыянеткавая дзяржаўка будзе існаваць, усё прагрэсіўнае чалавецтва ў чарговы раз пераканаецца, што мы здольныя пайсці на самыя беспрэцэдэнтныя

крокі ў пытаннях нацыянальнага самавызначэння!

Маршал Маліноўскі плёхнуў у шклянку празрыстай, выпіў нагбом, гучна занюхаў рукавом:

– А калі нам іх нацыянальнае самавызначэнне не спадабаецца, мы тых фашыстаў умомант танкамі адпрасуем!..

– Ды засцуць яны там нейкае нацыянальнае самавызначэнне распачынаць, – супакоіў старшыня КГБ. – Я ж аператыўныя зводкі штотыдзень чытаю. Народ у тых краях суадносна спакойны, збольшага накормлены і вельмі-вельмі запалоханы.

Хрушчоў згодна прымружыўся, наліў па новай. Меркаванні паплечнікаў амаль супадалі з ягонымі ўласнымі. Хаця прапанова амерыканскага прэзідэнта і выглядала падступнай ідэалагічнай дыверсіяй з відавочным рэвізіяніслцкім душком, але насамрэч была мёртванароджанай.

пад іншымі назовамі. Ключавыя кадры псеўдадзяржаве прызначаем мы, гэта нават не абмяркоўваецца!..

– І наконт асобных адшчапенцаў, дарагія таварышы, можаце не хвалявацца, – вышчараўся старшыня Камітэта Дзяржаўнай Бяспекі. – У савецкае ўлады на кожную нязгодную патыліцу заўсёды знойдзецца куля, а на кожны жывот – кірзач!

Мікіта Сяргеевіч з сантыментам глянуў на Шэлепіна, пацягнуўся да графіна і наліў усім уласнаруч.

– Ну што, давайце яшчэ па адной – і я да Кенэдзі, дамову падпісваць!..

**Глава 19**

Вікенцій Дамінікавіч расплюшчыў вочы, хваравіта íкнуў і рэфлекторна нацягнуў падушку на галаў. У галаве панавала арктычная ноч, падфарбаваная атрутным зеленкаватым ззяннем. Нябесны агонь пульсаваў

– І НАКОНТ АСОБНЫХ АДШЧАПЕНЦАЎ, ДАРАГІЯ ТАВАРЫШЫ, МОЖАЦЕ НЕ ХВАЛЯВАЦЦА, – ВЫШЧАРАЎСЯ СТАРШЫНЯ КАМІТЭТА ДЗЯРЖАЎНАЙ БЯСПЕКІ. – У САВЕЦКАЕ ЎЛАДЫ НА КОЖНУЮ НЯЗГОДНУЮ ПАТЫЛІЦУ ЗАЎСЁДЫ ЗНОЙДЗЕЦЦА КУЛЯ, А НА КОЖНЫ ЖЫВОТ – КІРЗАЧ!

– А вось я катэгарычна нязгодны, – нечакана для ўсіх падаў голас ачуняны Міхаіл Андрэевіч Суслаў. – Што, у той марыянеткавай дзяржаве гаркамаў партыі не прадугледжана? Дзе КГБ, дзе партканроль, дзе цэнзура? Дзе, у рэшце рэшт, лагеры для асобных адшчапенцаў?

Лістападаўскае сонца гарызантальным лязом прасякло шчыліну ў парцьерах, і мазаічныя пралетары на пано запраменіліся аптымізмам. У галаве Першага сакратара ЦК КПСС канчаткова праяснілася, колцы і шасцярэнькі дзяржаўнага механізма затахкалі ў рытме гадзінніка Спаскай вежы.

– Гаркамы, КГБ і ўсё астатняе захаваецца, – супакоіў Хрушчоў. – Толькі

прывідным люмінісцэнтам, выбухаў фантастычнымі пратуберанцамі і, урэшце, трансфармаваўся ў празрысты разак паяльнай лямпы, які бязжальна высмальваў гартань, пячонку і селязёнку.

Кволая далонь пашнарыла пад ложкам слоік вады і не знайшла. Вантробы загальгаталі абураным індыкам. Да горла ўздымаўся кіслотны кактэйль з алкаголю, нікаціну і страўнікавага соку. Пахмелле лупцавала ў шкляны мозг бруднымі кірзачамі, дубасіла кавадлам, рагатала гнілásна і цынічна.

І тут, трапляючы ў рэзананс мярзотным вібрацыям пад крохкім чэрапам, нехта энергічна загрукаў у дзверы:

– Таварыш Пяткевіч, вы ўдома?

Камітэтчык імгненна згадаў пра ўцёкі падследнага, пажар у райаддзеле, свой цвёрды намер застрэліцца і скрыню каньяку, якую дапіваў ужо пяты дзень. Са стогнам зафіксаваў цела вертыкальна, намацаў пісталетную дзяржальню, наліў развітальную чарку і асцярожна адсунуў парцьеру… Цікава, хто прыбыў яго арыштоўваць: былыя падначаленыя ці з самога Мінска?

Акурат пад домам блішчэла лакам і хромам ўрадавая «чайка» афіцыйнага чорнага колеру. Двое ахоўнікаў лубянскага экстэр'еру нерухомілі каля дзвёрак. Народу паблізу не назіралася: відавочна, іх папярэдне загналі па хатах.

Чэкіст тупа агледзеў пісталет і сунуў яго ў кішэню; апергрупы на «чайках» не ездзілі. Грукат у дзверы паўтарыўся.

– Таварыш Пяткевіч, неадкладна адчыніце! Органам вядома, што вы тут!

Вікенцій Дамінікавіч глянуў у люстэрка і жахнуўся воўчаму выскалу, крывавым вачам і жывёльнай сваёй няголенасці. Але часу, каб прыводзіць сябе да ладу, не заставалася. Накінуў на столік з недапітымі чаркамі газету, закаціў пустыя пляшкі пад ложак, адчыніў дзверы – і адступіў з распяленым ротам…

– Што ж гэта за гаспадар, які дарагога госця прымушае чакаць? – маладжавы дзядзька з гладкім тварам адстаўнога камсамольскага правадыра крытычна агледзеў пакой, пацягнуў носам і адчыніў фортку.

– Вінаваты, таварыш старшыня Камітэта Дзяржаўнай Бяспекі Саюза ССР! – пранізліва ікнуў Пяткевіч.

Шэлепін прыўзняў са стала газету, з разуменнем ацаніў каньячныя пісягі на паліроўцы, па-прыяцельску падміргнуў бюсту Фелікса Эдмундавіча, перад якім стаяла паўнюткая чарка.

– У таварыстве з трэнерам, таварыш маёр? Малайчына. Дазваляю пахмяліцца, а то адразу не ўрубішся.

Таварыш маёр, ачмурэлы ад пабачанага і агламошаны пачутым, паслухмяна выпіў і ўтаропіўся ў госця крыху паяснелымі вачыма.

– Пра апошняе рашэнне Партыі і ўраду чуў? – госць працягнуў саф'янавую папку.

Пяткевіч зашаргацеў паперай. Пальцы зліпаліся. Літары скокалі блыхамі і шпокалі бурбалкамі.

– «Пастанова Вярхоўнага Савета БССР «Аб выхадзе са складу Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці»… – прачытаў ён наждачным шэптам. – Ідучы насустрач пажаданням працоўных, а таксама з мэтай аднаўлення гістарычнай справядлівасці…»

– Так што па хуткім часе ты ўжо нават і не савецкі грамадзянін, – канстатаваў Шэлепін задуменна. – На тэрыторыі вашага раёна мае быць створаная новая, цалкам самастойная дзяржава.

Вікенцій Дамінікавіч здолеў дачытаў «Пастанову…» да апошняй кропкі, двойчы змаргнуў сухімі чырвонымі вейкамі, ушчыкнуў сябе неўпрыкмет і зноў глянуў у аркуш: тэкст не змяніўся. І толькі назва новай дзяржавы, якае мелася паўстаць на месцы Нясвіжскага раёна, выглядала надта ўжо фантастычна, каб паверыць у напісанае нават з другога разу.

– Хіба так і будзе называцца?.. – шчыра жахнуўся Пяткевіч. – Няўжо ў Савецкай Беларусі адраджаецца рэакцыйны сярэднявечны феадалізм?

– Нармалёвая чалавечаская манархія, – рагатнуў галоўны камітэтчык Савецкага Саюза. – Нацыянальная па форме і сацыялістычная па змесце – прынамсі фармальна. Слухай сюды, маёр. Радзіма аказвае табе высокі давер, пакідае ў Нясвіжы

на канспіратыўнай працы. Якой бачыш першачарговую задачу?

– Таварыш старшыня Камітэта Дзяржаўнай Бяспекі, будынак нашага райаддзела ў выніку самазапалення…

– Мудак! – жорстка абсёк Шэлепін.

– Так точна!

– Райаддзел загарэўся не ў выніку самазапалення, – старшыня КГБ змякчыў інтанацыю да памяркоўна-змоўніцкай. – Гэта ты наўмысна яго падпаліў. На тэрыторыі вашага раёна шмат гадоў дзейнічала разгалінаваная нацыяналістычная групоўка, добра ўзброеная і выдатна заканспіраваная. Беларускі рэзыстанс, антысавецкі вызвольны рух, самаахвярныя змагары за нацыянальнае самавызначэнне. Ты і быў адным з ключавых кіраўнікоў тае арганізацыі… Што зыркаеш, маёр? Менавіта так: ажно ў Дзяржбяспеку пралез! Таму нацыяналістычную групоўку так доўга і не маглі выкрыць. Аднак маскоўскія чэкісты, якія праводзілі ў Нясвіжы сакрэтную спецаперацыю, выйшлі на ваш след і схапілі Міхала Апанасавіча Вітушку, лідара беларускага нацыянальнага супраціву. Каб вызваліць паплечніка і да таго ж адпомсціць таталітарнаму рэжыму за ўсе здзекі і рэпрэсіі, ты і падпаліў райаддзел. Але крывавая гэбня закатавала Вітушку раней, чым той паспеў збегчы. Усё ўцяміў?

– Так точна! – схлусіў Вікенцій Дамінікавіч.

– Вось і добра. Гэта, так бы мовіць, знешні контур твайго будучага легендавання. Дэталі дапрацуем, паперы сфальсіфікуем, агентуру праінструктуем – час яшчэ ёсць. Слухай далей…

Словы госця асыпаліся на мозг фантасмагарычнымі сняжынкамі, але Пяткевіч амаль ужо верыў, што ўсё гэта не сон і не белая гарачка. Суразмоўца выкладаў перад ім цалкам лагічныя блокі, арнаментуючы іх тэрміналогіяй з курсу лекцый «Аператыўныя камбінацыі КГБ СССР». У галаве Вікенція Дамінікавіча шкрабалі кельмы і чвякаў раствор; ён спрабаваў збудаваць з тых блокаў цэласную будыніну, але безвынікова.

– Мы дапаможам табе ўкараніцца ў новы ўрад і заваяваць там абсалютны давер, – маляваў маёрскую будучыню Шэлепін. – Гэта трэба для поспеху ўсяе аперацыі. Неўзабаве ты атрымаеш грошы. Да халеры грошай, ты нават і не ўяўляеш, што такія сумы існуюць у прыродзе. Прытым – выключна ў валюце: даляры, фунты, песа, маркі і ліры. А таксама падрабязныя інструкцыі, што з гэтымі грашыма рабіць. Пройдзеш паскораныя курсы: мовы, фінансы, нацыяналістычная фразеалогія і буржуазны этыкет. І будзеш рабіць у новай дзяржаве тое, што табе скажуць. Гэта і ёсць самае важнае заданне ў тваім чэкісцкім жыцці. Выканаеш – пойдзеш на пенсію генералам і нават… нават патрапіш у камунізм.

Вікенцій Дамінікавіч зглынуў, змаргнуў, захаўкаў разгублена.

– Але на Дваццаць другім з’ездзе Партыі таварыш Хрушчоў дэкляраваў, што пры камунізме будзе жыць толькі наступнае пакаленне савецкіх людзей…

– Для некаторых савецкіх людзей камунізм даўно ўжо настаў, – паведаміў старшыня КГБ у канфідэнцыйнай танальнасці. – Эксперыментальная версія для самых заслужаных, так бы мовіць. Маеш усе шанцы стаць адным з абраных. І сваю бабу-інваліда таксама зможаш у камуністычны рай забраць. Пытанні ёсць?

– А як з падследным Вітушкам?… – крыху асмялеў Пяткевіч.

– Згарэў пры пажары – а то куды яму з райаддзелу было падзецца? Там пад руінамі трынаццаць абвугленых тушак адкапалі, адна з іх – дакладна фашысцкая, – Шэлепін глянуў на гадзіннік, вызначыў начальніцкі рух да дзвярэй. – Згарэў – то і добра. Але ўшанаваць і гэтага паліцая, і ўсіх іхніх

вітаўтаў са скарынамі ўсё ж давядзецца: інакш амерыканскія імперыялісты, якія за ўсім гэтым стаяць, не павераць, што ў новай дзяржаве праходзяць ідэалагічныя змены… Так што вяртайся да жыцця; «падпольны абкам дзейнічае». І не забывайся, якую ўзнагароду маеш атрымаць, калі выканаеш заданне Партыі і ўраду!..

* * *

Вечаровы дождж шчыльна заштрыхоўваў трасу Мінск–Брэст. Каламутная шэрань размывала перспектыву шашы. Вадзяны пыл дыміўся пад коламі калгаснай палутаркі, якая нетаропка каціла ў бок райцэнтра.

Блізка развілкі на Гарадзею грузавік усхліпнуў гальмамі і спыніўся на ўзбочыне. Шафёр здзіўлена аглядаў на масіўную шэра-бетонную стэлу; яшчэ з раніцы тут сінеў аблушчаны дарожны знак з надпісам «Нясвіжскі раён».

– Гля, цётка Агнэса, што дзеецца!.. – кіроўца штурхнуў локцем старэчу ў заношанай хустцы.

Пасажырка прыадчыніла дзверку, напружана прымружылася, спрабуючы прачытаць надпіс на стэле.

– Нешта зусім я саслепла, – уздыхнула яна крыху вінавата. – А ну, сам скажы, што там напісана?

– «Сардэчна запрашаем у ВССКЛ!», – без усялякага выразу прачытаў кіроўца.

– Вой, проста язык можна зламаць… Што гэтае «вээсэскээл» хоць азначае?

Шафёр выкруціў руль налева. Пратэктары зашаргацелі па доўгай калюжыне. Грузавік панура паплыў праз дождж.

– У нас у аўтакалоне з раніцы палітінфармацыю праводзілі, і пра новую назву раёна таксама казалі. Я недзе нават запісаў, каб не забыцца, – кіроўца зашаргацеў паперкамі на прыборным шчытку. – Во! «Вялікае Савецкае Сацыялістычнае Княства Літоўскае». Сталіца ў Нясвіжы застанецца, а вось першым сакратаром нейкага паночка з вашынгтонскага абкаму прышлюць: ці то князя, ці то проста капіталіста. Як думаеш, цётка Агнэса, нешта да лепшага ў нас зменіцца?

– Ды што ў нас тут да лепшага можа змяніцца? Глядзі, каб толькі горш не было…

знойдзеш? Усіх даўно сабакі паперагрызалі.

Далёка заходзіць было рызыкоўна. Ён выйшаў на праспект. Паблізу – ні душы, толькі перасохлае лістоўе шкрабала па нячышчаным асфальце і чулася, як дзесьці па кальцавой праязджалі нешматлікія машыны.

Ванька павярнуў назад. Прайшоў праз суседнія дамы і пабачыў ля адной сметніцы здохлага голуба. Падышоў, пхнуў нагой. Азірнуўся. Жыхары, як сычы, сядзелі па сваіх логвішчах, а там хоць трава не расці. Хлопец хутка падхапіў тушку і заклаў сабе за пазуху.

Скажу, што самаруч задушыў, здыхатой харчуйся, са злобай падумаў хлопец. Няма чаго тут па дварах бадзяцца.

Новая забава і якія-ніякі сэнс жыцця змушалі яго ісці на ахвяры. У іншым разе ён бы ніколі і ні для каго не выпаўз на двор. Ад гэтых думак хлопцу нават брыдка стала.

*«Што я, як валацуга які, як грэбаны бічара, сноўдаюся тут па завуголлях?»*

Аднак, уяўляючы хударлявую шыю Арэвік і гэтую белую скуру, бы з казках пра Снягурку, з ледзь прагляднымі сінюшнымі жылкамі крыві, Ванька аж перасмыкваўся. За ўсё трэба плаціць, нават у часы забыцця.

*«Калі будзе шалець, прынясу ёй у наступны раз сабаку. Паглядзім на яе паводзіць. А там можна і павысіць градус дазволенага. Зараз у горадзе шмат людзей, якія не маюць ніякага маральнага права на жыццё, а мне ўсяго-ткі і трэба, што павольна папіваць алкашку, граць на прыстаўцы, мастурбаваць, нічога ж крымінальнага, толькі што часам прыдушваць уласнага вязня. Прынамсі, я заслугоўваю і для сябе крыху шчасця».*

Так думаў Ванька, бадзёра шпацыруючы дамоў.

Ля пад’езда па-ранейшаму круціўся Фядун, бы ў яго іншай справы не было. І ў гэты самы момант хлоца ахінула. Куды ён раней глядзеў? Гэты ж смоўж можа быць выдатнай ахвярай для Арэвік!

Фядун ніколі яму не падабаўся. Вечна гарлапаніў на ўвесь двор, толькі запрыкмеціць, заўжды ў яго была якасьці справа, заўжды трэба было штосьці спытаць, уцікнуць, падцвяліць. Такі ўжо чалавек. Але Ванька разумеў, што ўсё гэта зыходзіла ад нэндзы і зайздрасці. Дый і як яму – Ваньку – можна было не зайздросціць. Кватэра дасталася ад бацькоў, калі хлопцу яшчэ і трыццаці не споўнілася. Ванька, вядома, любіў даць за каўнер, але мясцовых алканаўтаў цураўся, бы яны былі ніжэйшай кастай. Фядун ведаў Ванькавага бацьку, такога ж нелюдзімага і змрочнага мужыка, які грозна глядзеў на гэты свет з-пад чорных брэжнеўскіх броваў.

Вырублю яго ззаду і аднясу гэты сухашчавы азадак да Арэвік. Будзе менш на аднаго балбатуна, падыходзячы бліжэй, ва ўсю ўжо планаваў свае дзеянні хлопец.

– І халера яго ведае, адкуль яна ўзялася? – усё не сунімаўся Фядун. – Я чуў, што мянты іх трохі падчышчаюць, нядаўна ж і рэйд быў. Вось падла! А Грыня, ты ж яго памятаеш, такі сіплы, сівы дзядзька.

На гэты раз Ванька падышоў да Федуна амаль упрытык.

– Жах, што дзеецца... Слухай, а што ты сёння робіш?

Пытанне збіла суседа з панталыку.

– Нічога... Дома сяджу.

– Дык мо заходзь? Задзяўбло ўжо аднаму сівуху піць...

Фядун хціва пачаў чухаць сваё тлустае, як у пелікана, другое падбароддзе.

– Заўжды ведаў, што ў цябе ёсць чым пажывіцца. Што ж ты раней не казаў?

– Толькі маўчок – нікому?! Сёе-тое маю! Мне сведкі і лішнія раты не патрэбныя.

– Паняў – магіла.

Ванька ведаў, што Фядун жыў адзін, ведаў, чым яго можна прывабіць, таму ляпнуўшы па плячы, сказаў:

– Ну дык давай пасля дзевяці!

– Магу і раней...

– Раней не трэба. Чакаю а дзявятай гадзіне!

Ванька вярнуўся ў кватэру. Праслізнуў на кухню і выняў з-за пазухі голуба. Трэба было нацадзіць крыві і як мага больш.

Ён дастаў нож і паласнуў птушку па гарляку, нахіліў дагары, і прадставіў пад яе шклянку. Кроў зусім не ішла. Відаць, голуб добра падмерз. Прыйшлося запхнуць тушку ў мікрахвалёўку і трохі пачакаць.

Падагрэўшы голуба, хлопец зрабіў яшчэ колькі надрэзаў на цельцы і паклаў яго у міску, каб яна напоўнілася крывёй.

Арэвік ляжала ў пакоі ніцма, і як толькі Ванька адчыніў дзверы, раз'ятрана паглядзела на свайго паланіцеля.

– Не гізуй! Трохі знайшоў. І я з добрымі навінамі.

Дзяўчына ўмольна слухала кожнае яго слова.

– На вечар дамовіўся з адным абрыганам. Ведаеш, ён мяне яшчэ з дзяцінства падбешваў. Дастаў нарэшце. Хопіць! Ніхто і не заўважыць яго знікнення. План такі: у дзевяць гадзін я прывяду да нас гэтага боўдзілу, і як толькі ён пяройдзе ганак – мязну яму па патыліцы малатком, а далей справа за табой.

– Ды мне ўсяго б толькі трыста грам выпіць.

– Ну ў чалавека літраў пяць маецца, табе на месяц хопіць. Пытанне адно: як ад трупа пазбавіцца потым?

Дзяўчына нічога яму не адказала.

Ванька вярнуўся на кухню і выліў ў чарачку кроў. Не багата. Вадкасць мела цёмны колер. Брыдота. Хлопец выкінуў тушку праз акно і аднёс пітво дзяўчыне.

– Галубіная? – нагбом выпіўшы сваю порцыю, спытала Арэвік.

– Ты і ў гатунках разбіраешся?

– Ужо пратухла. Мне здаецца, гэта той голуб, якога я прыдушыла мінулай ноччу.

Ванька змаўчаў. Праверыў вузлы.

– Слухай, а зубы вашыя, яны наогул неяк праяўляюцца? Ну іклы ў сэнсе? Нешта я ў цябе іх не заўважыў, – чамусьці спытаў у яе хлопец.

Арэвік з пагардай выцерла вусны. Было відаць, што кроў і сапраўды была гідкай.

– Не ведаю, мне здаецца, гэта казка для дарослых. Год прайшоў, як я заразілася, але ніякіх іклаў у мяне так і не прарэзалася.

Яна вышчарыла на Ваньку роўныя белыя зубы. Хлопец нічога падазронага не ўгледзеў. Яму толькі зноў захацелася сціснуць яе за шыю і надаваць аплявух.

– Арэвік, – ён сумеўся. – Я тут часам цябе пабіваць і прыдушваць буду. Ты не хвалюйся, у межах дапушчальнага. Але паслуга за паслугу. Усё справядліва.

Арэвік паглядзела на яго позіркам партызана, якога асудзілі на смерць.

– Глядзі, каб я не адказала!

– Дый табе, можа, і самой спадабаецца...

Фядун аказаўся пунктуальным, нават прыйшоў раней за вызначаны час. Зрабіў колькі працяжных званкоў у дзверы, мо хваляваўся, што Ванька заснуў ці наогул забыў аб сваім запрашэнні.

Аднак Ванька ўсё памятаў. Ці можна было забыцца на такі выдатны план? Каля дзвярэй ужо быў прыхаваны малаток – бацькоўскі, хлопец ужо нават і не памятаў, калі апошнім разам дзелаваў ім.

Хлопец думаў так: агаломшу Федуна па рэпе і запхну ў пакой да Арэвік. Калі што якое – я не вінны – усю брудную справу зрабілася яна – кryважэрны вампір з тварыкам анёла

сяўэднеазіяцкага тыпу. Зрэшты, потым можна будзе сказаць, што яна ўтрымлівала мяне ў закладніках і прымушала прыводзіць ахвяр. Ад такіх думак у яго жылах шалёна пульсаваў ціск, а ад уяўлення таго, што часам гэтую дзеўку можна будзе прыдушваць і як след урэзаць па твары, ніжэй паху пачынала цвярдзець.

Пачуўшы званок у дзверы, Ванька хуценька адамкнуў і ўпусціў Федуна ў кватэру, перад гэтым наляпіўшы ў тамбуры на вочка суседскіх дзвярэй скарыстаную жуванку.

Фядун па-гаспадарску, без дазвалення, сходу накіраваўся на кухню. Агаломсіць яго на калідоры не атрымалася.

– Не чакаў? – здзівіўся той, пабачыўшы пусты стол. – Дый я сам са сваім, – і паставіў бутэльку гарэлкі.

– Адкуль у цябе? – здзівіўся Ванька.

– Адкуль, вядома адкуль. Зараз кожны круціцца, як можа. Ну, нясі чаркі.

Хлопец дастаў шклянкі, паклаў чэрствы хлеб і бляшанку кількі.

– Я загадзя чуў, што ў краіне будзе дупа, зарыхтаваўся на год наперад, – паясніў ён Фядуну.

Селі, выпілі, закусілі.

– Дык што ты такі нелюдзімы, хлопец, як пустэльнік які? – адразу спытаў сусед. – Колькі год тут жывеш?

– Ды з маленства, – Ванька занерваваў. Напівацца яму не хацелася, трэба было быць цвярозым і ў што б ні стала ажыццявіць задуманае. Таму не больш трох чарак, вырашыў хлопец. Для прыліку.

– Во, а ні здрасце, ні насяру... – канстатаваў Фядун. – Я ж бацьку твайго добра ведаю. Як ён зараз, дарэчы?

– Дый на лецішчы з маці, натуральным прадуктам харчуюцца.

– Малайцы, я таксама думаў з'ехаць на сяло, толькі няма з кім, сап'юся ж там адзін...

Ванька пацягнуўся да бутэлькі.

– Ну, перад першай і другой...

– Налівай!

Аформіў.

– Дык ці адкажаш ты мне, ці не, чаму такі дзікі, га?

Каўтанулі па другой. Хлопец закусіў кільчынай і тыльным бокам далоні выцер вусны. Гарэлка была паганай.

– А што тут казаць? Я вам што, замінаю? Ну сам па сабе. Я ж не бамж які, у пад'ездзе не паскуджу, вяду нармалёвы лад жыцця…

– Я не пра тое! Ты ж пралетар, свой, тутэйшы, а паводзіш сябе, як інтэлігент задрыпаны. Чаго нас цураешся, не здароўкаешся, рукі не ціснеш, пры магчымасці абмінуць спрабуеш? Я ж бачу ўсё, яно адразу ў вочы кідаецца. А мы што, пракажоныя якія? Ды не – звычайныя мужыкі.

Ванька ляпнуў сябе па каленах.

– Ат, што тут скажаш. Людзі розныя бываюць... Ты чуў калі-небудзь аб двух тыпах асобы: экстраверт і інтраверт? Не? Першыя – людзі адкрытыя, гэткія кашуля-хлапцы; другія – людзі закрытыя, усе ў сабе. Я ж не магу папярод прыроды сваёй ісці. Такі чалавек. Але я да вас з павагай. Не думай там.

– Во так бы адразу і сказаў, а то інтраверт, шмынтраверт. Давай тады па трэцяй і папалім!

Ванька начысліў.

Ці зараз, ці ніколі! Трэба дзейнічаць. Тым больш пасля трох чарак смеласць і рашучасць узраслі ў хлопца да сваёй крытычнай адзнакі.

– Пайшлі да мяне на балкон, там і пасмалім, – выpraваджваючы Федуна ў калідор, сказаў хлопец.

Той не ўпарціўся: на балкон дык на балкон. Гаспадар-барын.

Ванька асцярожна падышоў да дзвярэй пакойчыка. На імгненне прыслухаўся, прыадчыніў і запрасіў рукой Федуна заходзіць.

– Ну і пах тут у цябе, – паспеў сказаць сусед, зрабіўшы крок наперад.

Хлопцу хапіла колькі секунд, каб схапіць прыхаваны малаток. Ён імпэтна падбег да Федуна і з усяе моцы мязнуў яго па чэрапе. Той не выстаяў

і ніцма даўся долу. Другі раз біць не прыйшлося. Кроў чырвонай юшкай пачала распаўсюджвацца па старым бясколерным лінолиуме. Кілім ён прыбраў загадзя.

Фядун не выдаў ні гуку. Здаецца, забіў, падумаў Ванька. Але дзе ж Арэвік? У залі, на месцы, дзе ён прывязаў дзяўчыну да батарэі, нікога не было – толькі вяроўка-трос.

– Вось, як і абацяў, здабыў табе крыві, – разгублена сказаў ён вампіру.

Арэвік не адказала і рэзкім рухам саскочыла яму на шыю.

Ванька нічога не адчуў. Шок і нечаканасць цалкам паралізавалі яго.

Апошняе, што ён бачыў у сваім жыцці, гэта вострыя іклы драпежніка, якія з хцівай пажадай упіваліся яму ў горла.

ВАНЬКУ ХАПІЛА КОЛЬКІ СЕКУНД, КАБ СХАПІЦЬ ПРЫХАВАНЫ МАЛАТОК. ЁН ІМПЭТНА ПАДБЕГ ДА ФЕДУНА І З УСЯЕ МОЦЫ МЯЗНУЎ ЯГО ПА ЧЭРАПЕ. ТОЙ НЕ ВЫСТАЯЎ І НІЦМА ДАЎСЯ ДОЛУ. КРОЎ ЧЫРВОНАЙ ЮШКАЙ ПАЧАЛА РАСПАЎСЮДЖВАЦЦА ПА СТАРЫМ БЯСКОЛЕРНЫМ ЛІНОЛІУМЕ. КІЛІМ ХЛОПЕЦ ПРЫБРАЎ ЗАГАДЗЯ.

Хлопец кінуўся цераз беспрытомнае цела суседа ў пакой. І сапраўды, куды яна падзелася?

Ён азірнуўся. Фядун выдаў цяжкі стогн.

У гэты момант з кута пад столлю пачулася шыпенне. Так шыпелі каты, калі іх зацкавалі ці наступілі на хвост. Ванька падняў вочы вышэй.

Арэвік, як вялікі тарантул, прыліпла да кута столі і чырвоным агнём шалёных вачэй глядзела на яго зверху ўніз.

Усё, не будзе больш алкаголю па вечарах, фільмаў, размоў сам-насам, урэшце мастурбавання, гульняў у «плойку». Гэта канец, бясслаўны, ганебны і беспаваротны.

«Ніколі не прыручайце звера», – неяк казала Ваньку ў маленстве бабуля.

Менавіта гэтыя словы ўспыхнулі ў яго свядомасці, якая марудна згасала пад напорам галодных і прагных укусаў вампіра.

2020 г.

# ВЛАДИМИР ЛИЛЕНКО

## ПАСЕКА ДИХЛОФОСА

Впервые я узнал о существовании пасеки во время своей стажировки в районной газете «Знамя труда». Той самой газеты, с которой потом оказалась связана вся моя трудовая жизнь.

Совхоз «Беларускі пчаляр» располагался рядом с одноименной деревенькой в районе деревень Ляхи, Славени и Заполье. Как видно из названия, основным видом деятельности совхоза было пчеловодство. И, на первый взгляд, этот совхоз  ничем примечательным не отличался от своих собратьев на всём СССР: пасека, мехдвор, склад ГСМ и поля медоносов вокруг до самого горизонта. Если бы не одна важная особенность: работали в этом совхозе с уникальной местной породой пчел – белорусской поозёрной пчелой.

Белорусская поозёрная пчела была известна на весь Советский Союз спокойным нравом, работоспособностью и высокой продуктивностью. Краеведы рассказывали мне, что первые упоминания об этих пчёлах датируются ещё временем Витовта! Павильон «Беларускага пчаляра» был постоянным участником ВДНХ.

Распад СССР больно ударил по всей стране. Рвались экономические и производственные связи, всем предприятиям (да и простым людям) приходилось приспосабливаться к новым условиям. По всей стране открывались и закрывались различные ЧП, ОАО, ЗАО и т.д., проходили митинги и совещания по поиску путей развития в новых условиях.

Не стал исключением и совхоз «Беларускі пчаляр». На одном из таких заседаний парторг совхоза Пётр Михайлович Серенький (в коллективе просто Михалыч) выразил вотум недоверия директору совхоза, обвинив того в краже свёртка гвоздей. На глазах у всего коллектива гвозди были пересчитаны. Их оказалось 98 штук; число, согласитесь, довольно большое, а значит и кража была в особо крупном размере.

Директор совхоза с позором покинул свою должность и в результате выборов главой совхоза стал Пётр Михайлович Серенький.

«Сереньким» Пётр Михайлович был только по фамилии. Напротив, в душе у него полыхал яркими красками пожар идей, энергия указаний и контроля била непрерывным потоком, не щадя никого из окружающих. Стоило ему только приблизится к работающим, зайти в какой-нибудь цех, кабинет, то он сразу же начинал фонтанировать ценными указаниями. Попытки их выполнить приводили к полному параличу

любого маломальского учреждения, будь то школьный класс, цех завода или кабинет врача.

После учёбы и армии он прибился к совхозу «Беларускі пчаляр» в качестве парторга. Видимо, кто-то наверху посчитал, что только вся мощь КПСС может как-то сдержать поток первобытной энергии Серенького. К тому же в роли парторга (вдали от производства) он сможет нанести наименьший вред совхозу.

На первом же собрании в качестве директора совхоза Михалыч выступил с полуторачасовой речью о перспективах совхоза.

Перспективы были грандиозные! В ближайшее время площадь пасеки должна была увеличится в 2-3 раза. Мёдом планировалось залить весь бывший союз и Европу. А через каких-нибудь 5-10 лет совхоз «Беларускі пчаляр» станет мировой столицей пчеловодства. Что и говорить, такие перспективы были встречены рабочим коллективом оглушительными и продолжительными овациями.

Получив от народа карт-бланш на претворение своих грандиозных планов в жизнь, первым делом Михалыч переименовал совхоз «Беларускі пчаляр» в «Сладкую жизнь». Слишком местечковым казалось ему старое название. К тому же новое название легко переводилось на любые иностранные языки, что в будущем облегчало бы переговоры с иностранными партнёрами.

Заодно Михалыч поменял и форму собственности, посчитав ненужным и даже вредным постоянные собрания с коллективом и голосования. Только твёрдая рука руководителя могла бы привести хозяйство к процветанию. После некоторых юридических действий Акулины Евлампиевны (подобных пассам фокусника в цирке) Михалыч стал во главе ЗАО «Сладкая жизнь». Ближайшие соратники Михалыча бухгалтер Акулина Евлампиевна Лапшина и начальник охраны Олег Сергеевич Есть вошли в состав совета директоров.

Кто же эти люди, которые составили своеобразный триумвират правления? Это те, к которым Петр Михайлович питал глубокое уважение.

Олег Сергеевич Есть был отставным военным и занимал должность начальника охраны. Фамилия Олега Сергеевича полностью отражала всю его внутреннюю сущность. Это был настоящий служака все 24 часа в сутки.

Есть что-то прекрасное и героическое в том, как военный человек молча выслушивает приказ, отвечает «Есть!», разворачивается и идёт сквозь огонь и воду, идёт, жертвуя своим здоровьем (по мере необходимости) и здоровьем своих подчинённых. Главное в том, кто отдаёт приказа, эту роль Пётр Михайлович отводил себе.

Сам же Олег Сергеевич страстно увлекался собаками. Он держал большую свору для охраны территории совхоза и постоянно рекрутировал всё новых и новых «новобранцев» во всех окрестных деревнях, обещая им бесплатное жильё (одноместную конуру) и сносное питание.

Акулина Евлампиевна, напротив, была человеком науки. Имя этой науки «Бухгалтерский учёт». Всю свою жизнь она гениально манипулировала данными, жонглируя цифрами, и приобрела поистине колоссальный опыт в этом деле. Видя, с какой лёгкостью в зарплатной ведомости 120 рублей, недоплаченных какому-нибудь механизатору, элегантно превращаются в 120 рублей премии директору ЗАО, Пётр Михайлович мысленно склонялся перед талантами Акулины Евлампиевны.

Следующим, безусловно важным делом стало строительство нового здания управления ЗАО «Сладкая жизнь». Действительно, не вести же переговоры с иностранцами, не заключать же миллиардные сделки в старом здании управления совхоза. Вместо старой

деревянной хаты с печным отоплением постепенно выросло трёхэтажное кирпичное здание, которое включало в себя не только кабинеты членов совета директоров, комнаты для переговоров, выставочные залы, но и сауну (по личной просьбе Акулины Евлампиевны) и бильярдную (по просьбе Олега Сергеевича). Михалыч же скромно ограничился тем, что отделал мрамором свой кабинет.

К сожалению, строительство обошлось в крупную сумму, поэтому постепенно пришлось расстаться с землями бывшего совхоза, мехдвором и складом ГСМ. А когда и этих денег не хватило, залезть в долги. Территория ЗАО «Сладкая жизнь» сузилась до пасеки и здания управления. Пришлось сокращать и коллектив. На торжественном открытии здания управления присутствовали все работники ЗАО «Сладкая жизнь»: Пётр Михайлович Серенький, Акулина Евлампиевна Лапшина, Олег Сергеевич Есть и Степан (разнорабочий, который чудом пережил все экономические реформы Михалыча).

Теперь ничто не мешало Михалычу начать мировую экспансию. Оставалось только увеличить сбор мёда. По расчётам Акулины Евлампиевны, увеличив получение мёда на 150% в течении 2 лет, можно было бы отдать все долги. А затем пасека стала бы приносить чистую прибыль.

К сожалению, пчёлы этот план полностью провалили (то ли из-за того, что на землях бывшего совхоза перестали сеять медоносы, то ли из-за плохого доведения до них плановых показателей).

Пришлось Михалычу, посидев ночь с подпиской журналов «Пчеловодство» за 1977 год, в совершенстве овладеть ремеслом пасечника.

Утром бодрым шагом Михалыч направился к Степану, который в это время просматривал рамки. Окинув взором раскрытый улей, рамки, ползающих пчёл, Михалыч был уже готов выдать ценные указания, как вдруг на его «указующий перст» села пчела. Немного поползав по пальцу, она вдруг резко ужалила его, и в опасной близости от лица Михалыча закружилось пчелиное подкрепление.

То, что было дальше, я могу описать, как позорное отступление Михалыча. Лишь в своём кабинете он смог справиться с остатками пчелиного воинства с помощью баллончика дихлофоса.

С тех пор Михалыч больше не подходил к пасеке. Между ульями и зданием управления пролегла невидимая граница. Горе той пчеле, которая нарушала эту границу. Её тотчас окутывало облако дихлофоса, в котором она и находила свой конец. То же самое касалось любого насекомого. Бабочки, мухи, комары, стрекозы – все они получали щедрую порцию яда. Да что насекомые! Сама Акулина Евлампиевна испытала на себе действие яда, не вовремя разбудив Михалыча в кабинете. С тех пор её лицо приобрело выражение некоторой заторможенности. К счастью, это не повлияло на ясность её ума и скорость обработки бухгалтерских данных. В общем пчёлы держались на расстоянии от Михалыча, а Михалыч держался на расстоянии от пчёл.

В течение последующих нескольких лет ближайшие к зданию управления пчёлы вымерли, а мёд с пасеки стал источать слегка уловимый запах дихлофоса.

Как я уже упоминал ранее, Михалыч любил контролировать работу подчинённых. Касалось это и продажи мёда на местном рынке, поэтому иногда за прилавком стоял сам председатель ЗАО «Сладкая жизнь».

Если раньше люди довольно бойко интересовались мёдом, то после нескольких отравлений поток покупателей уменьшился, а затем и иссяк. Редкий человек, подойдя к прилавку

и окинув взглядом ценники, был готов купить литр-другой мёда, но запах дихлофоса отпугивал и его. Стоило ему поинтересоваться у Михалыча, почему мёд пахнет дихлофосом, как перед ним происходила удивительная метаморфоза. Ранее спокойный, благообразный человек средних лет, стоящий за прилавком, превращался в свою полную противоположность. Его лицо наливалось кровью, речь становилась отрывистой, отчаянно жестикулируя руками, он иной раз скидывал товар прямо на землю. Покупатель уже уходил от прилавка быстрым шагом, а вслед ещё неслись обвинения и угрозы всем виноватым, начиная с пчёл и заканчивая самим покупателем.

Исчезали покупатели – исчезала прибыль. Математические способности Акулины Евлампиевны ещё могли успокоить налоговую службу, но не потребности Михалыча, ведь для мировой экспансии требовались значительные капиталовложения. Было решено провести внеочередное совещание совета директоров ЗАО «Сладкая жизнь».

С вступительным словом выступил председатель правления ЗАО «Сладкая жизнь». В нескольких простых словах, не стесняясь в выражениях, он обрисовал перед членами правления возникшую проблему и призвал к скорейшему поиску её решения. Сев на место, Михалыч выжидательно посмотрел на своих соратников, ожидая каких-либо предложений.

С предложениями было туго. Акулина Евлампиевна озвучила давно вынашиваемую идею о снижении количества сахара в зимней подкормке пчёл. Олег Сергеевич пробормотал что-то о намерении увеличить количество служебных собак и довольствие для работников службы охраны.

Всем членам триумвирата стало ясно, что эти предложения повлиять на продажи мёда не смогут. Спасительную идею подал Степан, косивший траву неподалёку от раскрытого окна кабинета Михалыча и слышавший обрывки переговоров.

Самогон!

И как эта идея не пришла в головы членам триумвирата! Ведь новый продукт имел массу плюсов по сравнению с мёдом.

Вооружившись калькулятором Акулина Евлампиевна быстро произвела необходимые подсчёты и огласила математически выверенные данные: стоимость самогона, произведённого из 1 литра мёда, МНОГОКРАТНО превышает стоимость самого литра мёда.

Проблема с запахом тоже будет решена. Запах самогона перебьёт любой другой (запах дихлофоса тем более).

Рекламная компания тоже обойдётся значительно дешевле, чем раньше. Теперь не надо бегать за мамашами и рассказывать им о целебных свойствах мёда. Какой нормальный мужик откажется от дегустации нового продукта, закусив солёным огурцом?

Срок хранения практически не ограничен. И никакой кристаллизации (натуральный мёд этим грешит)!

По итогам совещания были приняты следующие решения:

ЗАПУСТИТЬ ПРОИЗВОДСТВО САМОГОНА НА ОСНОВЕ МЁДА В КРАТЧАЙШИЕ СРОКИ.

Уменьшить количество сахара для зимней подкормки пчёл на 20%.

Увеличить количество служебных собак до 20 и продуктовое довольствие работникам службы охраны на 10%.

Михалыч, самолично погрузив в грузовичок три бидона мёда, съездил в райисполком и привёз оттуда официальное разрешение на выпуск самогона белорусского поозерья с целью возрождения культурных и нравственных

ценностей местного края. В кратчайшие сроки в одном из помещений здания управления был развёрнут миницех по производству самогона.

Следующий год стал поистине золотым в истории ЗАО «Сладкая жизнь». Толпы желающих приобщиться к культурным и нравственным ценностям круглосуточно осаждали территорию ЗАО. И это несмотря на то, что запах дихлофоса никуда не исчез. Напротив, после переработки мёда конечный продукт имел уже ярко выраженный запах яда.

Акулина Евлампиевна с целью экономии денежных средств внесла рацпредложение выплачивать зарплату работникам мужского пола продуктами собственного производства, что, однако, было встречено в штыки Михалычем и Олегом Сергеевичем. Поэтому на «натуральную» оплату труда был переведён только Степан. После этого он перешёл на круглосуточный режим работы и оборудовал спальное место прямо в цехе.

Постепенно среди «культурологов» появились настоящие ценители благородного напитка. Медленно пригубив стакан самогона, они могли часами рассуждать о букете, вкусовых качествах, крепости или цвете. Так как ценителей становилось слишком много, то рассуждения перерастали в диспуты. Одна группа дискутирующих заявляла, что в последней выгонке явно ощущается аромат липы, другая группа стояла на лесных травах, третья – ратовала за рапс. Часто дебаты переходили в рукопашную.

В связи с ухудшением криминогенной обстановки вокруг территории ЗАО «Сладкая жизнь» количество служебных собак было увеличено до 30. Вместо ветхого деревянного забора, который давно требовал ремонта, был поставлен новый забор из металлопрофиля высотой около 3 метров.

Вот тогда-то к Михалычу приклеилось прозвище Дихлофос, а самогон производства ЗАО «Сладкая жизнь» стал называться в народе «дихлофосовкой».

Окружив пасеку трёхметровым забором, Михалыч (теперь уже Дихлофос) почувствовал себя на островке спокойствия и безмятежности в окружающем его мире. Даже продажи не могли отвлечь его от руководства ЗАО, так как розлив продукции осуществлялся сразу же за забором с помощью штуцера и пластикового шланга. Пришло время реанимировать старые планы мировой экспансии, всего лишь заменив мёд «дихлофосовкой». Осталось только увеличить количество мёда, иначе самогона не хватит не то что на весь мир, но и на весь бывший союз.

В голову Дихлофоса пришла очередная блестящая идея. Он приказал Степану расписать забор с внутренней стороны цветами. По замыслу Дихлофоса изображения цветов должны были поднять патриотический дух пчёл. Они смогли бы больше работать, дальше и выше летать. Утром взору изумлённых пчёл предстали трёхметровые подсолнухи, ромашки и колокольчики.

К сожалению, дешёвая краска, которой пользовался Степан, слишком долго сохла, а ветер в островок спокойствия и безмятежности практически не проникал из-за высокого забора, поэтому в течение недели пчёлы из ульев около забора вымерли.

Устав от собственных идей, Дихлофос согласился на предложение Олега Сергеевича заасфальтировать всю территорию пасеки. Пасека стала напоминать военный плац, где стараниями Степана места для ульев были выделены извёсткой.

Хотя эти нововведения и не смогли повысить количество мёда (а только снизили его), они всё же радовали глаз Дихлофоса: металлический забор, скрывавший внешний мир от глаз пасечника, кислотно-яркие изображения цветов на заборе, свежий асфальт,

на котором ровными рядами стояли ульи. Да и количество разной мошкары сократилось в разы. Выжить на раскалённом асфальте не мог никто. Пчёлы тоже не могли выжить, поэтому после жаркого лета их количество опять сильно сократилось.

Словосочетание «золотой век» всего лишь метафора. В нашем случае век сжался до нескольких лет. В течение 2 – 2,5 лет количество потребителей культурных и нравственных ценностей постепенно уменьшился. Вначале один за другим ушли в другой мир истинные ценители «дихлофосовки», так называемые «сэммелье». Влед за ними потянулись на погост и остальные любители благородного напитка. С выходом на мировую арену также возникли сложности. Заграничные Иваны, Джоны и Гансы предпочитали травиться уже проверенными напитками и приобщаться к своим культурным и нравственным ценностям. В какой-то жёлтой газетёнке промелькнуло сообщение о том, что Госдеп США пригрозил санкциями ЗАО «Сладкая жизнь» за распространение химического оружия.

Начинался закат ЗАО «Сладкая жизнь». Теперь, когда самогон перестал продаваться, руководство ЗАО вновь обратилось к мёду как основной продукции предприятия. Судорожно генерируя и осуществляя одни гениальные мысли за другими, руководство ЗАО «Сладкая жизнь» лишь приближало конец предприятия.

Так, например, провальной оказалась идея поселить в опустевших ульях пчёл юго-восточной породы. По слухам, они давали до 120 кг мёда с улья. Дихлофос почти уже договорился с одним пасечником, державшим таких пчёл, но, узнав, что придётся за это отдавать две трети выкачанного мёда, от этой идеи отказался. Было и много других попыток, дававших только противоположный эффект при их осуществлении.

Последней гениальной идеей было предложение Акулины Евлампиевны полностью отменить зимнюю подкормку пчёл. Если пчёлы не хотят собирать больше мёда, нужно заставить их делать это. Каждая пчелиная семья, которая соберёт менее 40 кг мёда, будет лишена подкормки на зиму. Для доведения этой информации до пчёл по всей пасеке были развешаны плакаты примерно такого содержания: «От каждого улья по способностям, каждому улью по труду!», «Здесь трутни не нужны!» и т.д. Не знаю, поняли ли пчёлы то, что требовал от них триумвират, но ту, последнюю зиму из них не пережил никто. Больше о пасеке Дихлофоса я ничего не слышал.

За несколько лет до выхода на пенсию я посетил те края, когда писал статью о возросшем туристическом потенциале нашего района. Жители деревни успешно пережили развал совхоза. Кто-то фермерствовал на бывших полях «Беларускага пчаляра», кто-то подался в город, были и такие, которые открыли агроусадьбы. Туристы со всей страны съезжаются посмотреть на храмы и замки, расположенные поблизости. К их услугам мини-гостиницы, агроусадьбы, где усталых охотников за хорошими фотографиями для инстаграма всегда ждут вкусный ужин и мягкая кровать.

На месте ЗАО «Сладкая жизнь» теперь раскинулась автостоянка «Хрустальный гараж», где любой приезжий и местный житель может оставить на хранение своё авто. Владеет автостоянкой уже знакомый вам Дихлофос вместе с Акулиной Евлампиевной и Олегом Сергеевичем. В их рекламном буклете написано: «Только на автостоянке Хрустальный гараж с Вашим авто будут обращаться, как с хрустальным сосудом!».

Степан, к сожалению, не пережил последний год существования ЗАО «Сладкая жизнь». Круглосуточный

график работы и оплата натуральным продуктом подорвали его здоровье.

По четвергам после сауны приняв 100 грамм самогона из старых запасов, Дихлофос любит отдохнуть на крыльце здания управления. Окинув взором забор с выцветшими рисунками цветов, поле бывшей пасеки, покрытое потрескавшимся асфальтом и свежими разметками для машиномест, он предаётся размышлениям о своём былом успехе и клянёт последними словами местную породу пчёл: «Неблагодарные попались. Чуть до разорения не довели. И что я только для них не делал...» Полусонным подбрехиванием вторят ему служебные собаки, облюбовавшие бывшие ульи в роли конур.

Вот и подходит к концу моя история о пасеке Дихлофоса. Чтобы у внимательного читателя не осталось ощущения печали и меланхолии, спешу сообщить, что уникальная белорусская поозёрная порода пчёл не ушла в историю. На протяжении последних 20 лет существования ЗАО «Сладкая жизнь» многочисленные рои пчёл оседали на пасеках соседних деревень. Оседали и проживали свои маленькие жизни в согласии с миром, радовали пасечников высокими урожаями мёда. Поэтому сейчас окрестные деревни стали называться Сладкие Ляхи, Медовые Славени и Ульи Заполья.

# ПАВАЛ ЛЮБЕЦКІ

## БЕЛАРУСЬ АНЕРОІДНАЯ

**1. хваля маніякальна-рэпрэсіўнага псіхозу.** анейроідны жах надыходзіць тады, калі:

людзі павінны былі б хадзіць у масках, але замест гэтага маскі сарваныя

краіну накрывае хваля маніякальна-рэпрэсіўнага псіхозу

ахвотна ідуць на ахвяры, але ахвяруюць чамусьці тымі, за каго нясуць адказнасць

самым важным з мастацтваў робяць мастацтва звальваць своечасова і на патрэбных людзей, забываючы пра мастацтва сыходзіць своечасова і з годнасцю

рэальныя праблемы замоўчваюць, затое ствараюць штучныя, каб дэманстратыўна іх «вырашыць»

баішся, як бы з-за невялічкай ядзернай зімы ў моду не ўвайшлі свінцовыя касцюмы

на сцэну выходзяць людзі, якія б'юць ляжачых, папярэдне іх паклаўшы пры затрыманні

лаяльнасць куды важнейшая за кампетэнтнасць; тыя ж, хто застаецца лаяльнымі, ужо абсалютна бескарысныя

баішся, што хтосьці не вельмі мірны выпусціць чаргу ў чаргу на мірным сходзе

краіне хапае на Тэслу Ілана Маска альбо масак для маскі-шоў на затрыманні, але не хапае медыцынскіх масак для грамадзян

**2. высакароднасць як рыса для расходнага матэрыялу**

анейроідны жах надыходзіць тады, калі:

баішся, што хтосьці прадаў душу д'яблу, а расплачвацца давядзецца табе

баішся, што законы зусім спыняць дзейнічаць, і давядзецца жыць па законах Мэрфі

людзей, якія ламаюцца не адразу, змятаюць людзі, якія адразу не ламаюцца

тым, хто спрабуе навучыцца лётаць, выбіваюць з-пад ног зэдлік, а некаторыя жарты, што ўжо зацягнуліся, зацягваюцца шчэ й вузлом на шыі

для таго, каб адмазацца, некаторыя людзі гатовыя пайсці на ўсё, акрамя эшафоту

тыя, хто па званні павінен быць патрыятычным, па сваёй сутнасці тыповыя калабаранты

апраўдваючыся «хлуснёй у ратаванне», кажуць пра хлусню ў выратаванне сваіх азадкаў, а не грамадзян

хтосьці лічыць, што нават тыя, да каго яны заўсёды ставіліся як да расходнага матэрыялу, павінны быць ім лаяльнымі

у высакароднасці бачаць проста карысную рысу для расходнага матэрыялу

**3. пудзіла Тамаша Гобса**

анейроідны жах надыходзіць тады, калі:

патрыятызм рызыкуеператварыцца ў стакгольмскі сіндром

страта змяняльнасці ўлады прыводзіць да таго, што тая паступова едзе дахам

суверэнітэт азначае вярхоўную ўладу «суверэна»

ісці супраць «суверэна» = «падрываць суверэнітэт»

смяротнае пакаранне ніколі не скасуюць, бо гэта святое права суверэна паводле «Левіяфана» Гобса

дзяржава – гэта грамадская дамова, пра якую з табой ніхто не дамаўляўся, і наўрад ці з аўтарамі гэтай дамовы зможаш дамовіцца ты

падазраеш, што бяспека дзяржавы азначае тое, што разумеў бы пад бяспекай дзяржавы Людовік XIV

улада сумнеўнай канстытуцыйнасці збіраецца змяняць Канстытуцыю

**4. перавод краіны на рэжым ваеннай дыктатуры**

анейроідны жах надыходзіць тады, калі:

краіну пераводзяць на рэжым ваеннай дыктатуры, а яе насельніцтва на бязгучны

забаронена ўсё, акрамя таго, што дазволена тымі, каму ўсё дазволена

выказванні выгляду «а кароль-та голы» могуць расцаніць як самы небяспечны від экстрэмізму

само сабой зразумела, што акрамя судовай улады ёсць яшчэ і пазасудовая

сацыяльных ліфтаў амаль няма, а ў тых, што ёсць, хтосьці нагадзіў

пад выглядам барацьбы з карупцыяй яе манапалізуюць

на кожную сумленную і высакародную публічную персону ёсць праўда, якую яна гатовая хаваць любым коштам, у тым ліку коштам не самых сумленных і зусім не высакародных учынкаў

заігрываюць і адыгрываюцца, каб падмазвацца і адмазвацца

**5. выграбная яміна пад пазалочаным тронам**

анейроідны жах надыходзіць тады, калі:

розум засынае, а прачынаюцца яго пачвары

чалавек з сіндромам начнога вартаўніка злоўжывае манаполіяй на гвалт

ОРГАНЫ ЎНУТРАНЫХ СПРАЎ НЯДРЭННА АДБІВАЮЦЬ УНУТРАНЫЯ ОРГАНЫ, У ТОЙ ЧАС ЯК ОРГАНЫ НАКШТАЛТ ПАРЛАМЕНТА ВОСЬ-ВОСЬ ЗУСІМ АТРАФІРУЮЦЦА

спрэчкі пра родную мову абсалютна незразумелыя людзям, для якіх родная мова – крымінальнае арго

заўважыўшы чалавека, здольнага адказваць за свае ўчынкі, яго прымушаюць адказваць яшчэ і за чужыя

«адказны чалавек» азначае, што на яго працей за ўсё сапхнуць усю адказнасць

пад пазалочаным тронам заўсёды знаходзіцца выграбная яміна, і чым даўжэй сядзяць на гэтым троне, тым больш усяго ў ёй

«вы маеце права захоўваць маўчанне: усё, што вы скажаце, можа быць скарыстана для фабрыкацыі справы»

**6. запаведзі лаяльнасці**

анейроідны жах надыходзіць тады, калі глебай новай «палітрэлігіі» робіцца наступнае скажэнне Запаведзяў блажэнства з Евангельскай Нагорнай пропаведзі:

лаяльныя ўбогія духам, бо ў іх няма смеласці быць самімі па сабе

лаяльныя тыя, што плачуць, бо ім абяцаюць суцяшэнне

лаяльныя пакорлівыя, бо яны зручныя

лаяльныя тыя, хто жадае і прагне праўды, калі ім як след затлуміць галаву і выкарыстоўваць у сваіх мэтах.

лаяльныя міратворцы, бо яны гатовыя нават стрываць беззаконне, каб не развязалася вайна, дзе гінуць мірныя людзі

лаяльныя міласэрныя, бо даруюць нават тыя памылкі, якія даравалі не варта

лаяльныя чыстыя сэрцам, бо іх так проста падмануць

лаяльныя гнаныя за праўду, бо рана ці позна ім давядзецца стрываць падман кагосьці іншага. але гэта не значыць, што гэтая лаяльнасць будзе доўжыцца заўсёды

# ДАВЫД ПАДДУБСКІ

## НЕВІДОЧНАЯ АТАКА

Панурым снежаньскім днём у тры куты свету прыляцела паведамеленне аб смерці. Сталася б гэта трыццаць гадоў таму, то азначала б, хутчэй за ўсё, што чалавека ўжо пахавалі і справілі 9 дзен, але ў век тэхналогіі паведамленне сведчыла аб тым, што смерць наступіла некалькі гадзін таму. Жанчынам, што атрымалі звестку, было добра знаёма імя памерлага, але імёны адна адной узгадваліся з цяжкасцю.

Наталля жыла ў невялічкай беларускай вёсцы, Клава ў малавядомым горадзе Пермскага краю, а Юля ў заакіянскай Амерыцы, і калі сустракаліся яны разам, то не болей за два разы ў дзяцінстве. Клава была пляменніцай нябожчыка, якая жыла на яго гістарычнай радзіме, Наталля – пляменніца жонкі нябожчыка, якая адышла на той свет ужо з 15 гадоў таму, а Юля была адзінай унучкай і спадкаеміцай. Дзед не меў звязку ні з воднай жанчынай. Пасля смерці жонкі ён перастаў стасавацца з раднёй па ейным баку, а радня ўласная жыла занадта далёка, каб штодзённа падтрымоўваць сувязь у даінтэрнэтнай эпосе. Да ўнучкі, што так абыякава кінула родную хату, якую ён будаваў сваімі рукамі, з’явілася агіда і непрыязнь, як да здрадніцы. Апошнія дзесяць год самотны дзед займаўся ўмацаваннем дома і забяспечваў сябе абаронай ад неіснуючага ворага. Здавалася яму, што хтось са шматлікіх сваякоў абавязкова пазайздросціць яго дабрабыту і з’явіцца, каб адабраць залатую маёмасць. Прыхаваныя грошы і пенсію ён сквапна збіраў да кучы і, не дазваляючы сабе нічога лішняга, вытрачаў на падвойныя металічныя дзверы, моцныя вокны, высокі плот, неверагодную колькасць замкоў, якімі зачыняліся і калітка, і сарай з куратнікам. Нават звярнуўся да спецыялістаў і ўсталяваў некалькі камер вонкавага назірання. Дзед быў не дурны, таму разумеў, як хутка развіваюцца новыя тэхналогіі і разам з імі – небяспека. Яго маглі ўзламаць у любы дзень. Таму высокі плот змяняўся яшчэ вышэйшым, замкі на больш сучасныя. Суседзі ціха смяяліся з такога бункера, а сяброў дзед сабе не знайшоў, бо не хацеў, каб хоць хто празнаў пра яго сакрэты.

Камеры паказвалі пусты двор і нікому нецікавую калітку. Тэлевізар прамаўляў аб наступленні НАТО (у якім, цалкам магчыма, магла быць дзедава драпежная ўнучка Юля) і аб тым, што ён не бачыць, як лётаюць вірусы. Не заўважыла іх і камера…

Наталля па сарафанным радыё дазналася першая і знайшла астатніх у сацыяльных сетках. Юля прапанавала выйсці на відэазвязок, і вось тры

жанчыны вывучалі твары адна аднае, баючыся задаваць пытанні. Па-за камерай у дзвюх гучалі дзіцячыя галасы, але ізноў жа было неяк недарэчна запытываць пра дзяцей, якія цябе не цікавілі працягам жыцця. Тым не менш яны ўглядаліся адна ў адну, бо разумелі кроўны звязок і нібы расшуквалі ўласныя прыкметы ў адлюстраваннях з экранаў.

Дзед сканаў ад каранавірусу, згарэў за тыдзень, – працягвала Наталля. – Я званіла ў сельсавет, там сказалі, што за месца на могілках заплочана загаддзя і прывязуць яго ўжо са шпіталя ў зачыненай труне. То-бок ні аб якім развітанні і размовы няма, але ж што з памінкамі, адпяваннем? Я магу дапамагчы, калі нешта трэба. Радня ўсё-такі.

Ён мне неаднаразова загадваў пахаваць яго багата, але тое яшчэ ў юнацтве, – перахапіла ўнучка. – Хацеў аркестру. Сказаць па праўдзе, каб хто заняўся пахаваннем, то я б пералічыла грошы і на аркестру, і на ўсё што трэба, але сама я не паеду. Мне вельмі далёка, ды мы і не блізкія з ім. Калі ты, Наташа, будзеш займацца, то я пакрыю фінансавы бок.

Я б занялася, калі б ты папрасіла, бо ён мне ў рэчаіснасці чужы…

А я не прашу.

Дзеўкі, – прамовіла Клава, – Дзякуй, што мяне далучылі, але я наспраўдзе самы далёкі яму чалавек. Ведаю адну – дзве гісторыі, што распавядала мне мама аб іх дзяцінстве. Вельмі павярхоўна. Таму я – ніяк. Мама зусім старая, мы можа сходзім з ёй у царкву ці што. Але ў астатнім – ніяк.

Яны яшчэ з дзясятак хвілін паразмаўлялі наконт гэтай тэмы і сціхлі, глядзячы ў экраны. За некалькі маўклівых секунд усе трое ясна зразумелі, што гэта была іх апошняя размова. Іх з'яднала імгненная змова на абыякавасць да пахавання, і, даючы адна адной дазвол не рабіць нічога, яны пазбавіліся ад пачуцця віны.

Наступнага ранку некалькі незнаёмых мужчын з камунальных службаў апусцілі закалочаную труну ў яміну.

Камера ў двор, ці то выключаная, ці то да гэтага часу працуючая, перастала фіксаваць свой адзіны рухомы аб'ект і ўжо суцэльна сканцэнтравалася на лётаючых вірусах, якія зялёным тлустам агортвалі паветра. Вучэнні НАТО скончыліся, так і не пераступіўшы мяжу.

*Давыд Паддубскі*

# АБ'ЕКТАФІЛІЯ

Дзесь не ў далёкай будучыні людзі стаміліся ад прагрэсу і найлепшай формай супраціву абралі рух у адваротным напрамку. Дэградаваць было б занадта радыкальна, але вось ажыўляць мінулае падыходзіла якраз.

Пачалі людзі вышукваць розныя аўтэнтычныя нормы, традыцыі і гуртавацца вакол сваіх новых інтарэсаў у супольнасці, якія нават перарасталі ў плямёны. Чым аўтэнтычней былі іх каштоўнасці і абрады, тым круцей выглядалі чальцы на ўзроўні з усімі астатнімі. Адна праблема – забаранялася паўтараваць. Калі хоць адно племя ў свеце ўжо выкарыстоўвала, напрыклад, старажытнае афрыканскае шнараванне твару, іншыя не маглі згуртавацца на падставе такой традыцыі.

Самыя хуткія і разумныя ўжо ж перарыдлявалі архівы і сакральныя кнігі і вокамгненна запатэнтавалі за сабой найлепшыя рысы мінуўшчыны. Людзі з невялікімі магчымасцямі працягвалі пошукі і часта звярталіся да спецыяльных агенстваў, якія небескаштоўна займалі росшукам і падборкай неабходных культурных з'яў. Людзі ж зусім слабога інтэлекту спахваціліся ў апошнюю чаргу. Па-першае, іх гэтыя гульні занадта доўга не датычыліся па ўласным жаданні. Па-другое, большая частка з іх прызвычаілася выконваць загады замест таго, каб узбуджаць мазгі і займацца пошукамі, але рэгрэс нарэшце ж дайшоў і да такіх персанажаў. Як усе людзі з нізкімі інтэлектуальнымі здольнасцямі, яны вырашылі да спецыялістаў не звяртацца і пачалі «варушыць паўшар'ямі».

Суполцы, пра якую пойдзе гаворка ў нашым сказе, пашанцавала. Адзін з чальцоў натрапіў у цёмным завулку ці то на навукоўца, ці то на доктара, ці то на доктара навук, няважна, але аджаў у таго акулярыка цэлы заплечнік з кнігамі. Доўга церушылі чальцы патэнцыйнага племені старонкі з незразумелымі словамі, але ж вынайшлі ўзгадкі пра дзікіх людзей, якія жылі ў Конга і зваліся Балуба. Усім спадабалася, што былі тыя людзі моцнымі і ваяўнічымі.

Вырашылі чальцы супыніцца на гэтым, назвалі сябе балубаўцамі і пачалі будаваць свой аўтэнтычны статут. Каб не перасварыцца, вызначыліся, што статутам зоймуцца дабравольцы, самыя чытаючыя людзі групы. Ім і аддалі аджатыя дакументы.

Ой і цяжкая была праца. І вочы зудзелі і мазгі ўскіпалі, сыходзілі, здаваліся чытачы да той пары, пакуль не застаўся сярод іх адзін, самы ўпарты і фізічна моцны мужчына. Разабраўся ён у рэшце рэшт, як мог, што супольнасць людзей Балуба грунтавалася і ядналася на чатырох прынцыпах:

Бумунту – аўтэнтычнасць асабістасці.

Мусіма муампе – добрае сэрца.

Булемэ – самапавага, годнасць.

Булопуўэ – безасабістасць улады.

Першы прынцып быў сапраўды круты і толькі падкрэсліваў неабходную супольнасці аўтэнтычнасць. Самапавагі ў балабаўцаў было дастаткова, таму гэта не супярэчыла іх існасці. Безасабістасць улады ж чытач успрыняў як адсутнасць лідара, анархію, дзе кожны з чальцоў і цар і бог. Другі прынцып – добрае сэрца – быў такім нерэчаісным, што чытач не зваруў на яго ўвагі і хутка, лімітаваная памяць наагул выдаліла гэтую інфармацыю цалкам.

На жаль, прафесар, які так і не ачуняў ад збіцця ў завулку, быў адзіным, хто б здолеў паспрачацца з трактаваннем конганіскіх рэлігійных уяўленняў

і маралі. Безаасабістасць улады наспраўдзе азначала абмежаваныя магчымасці караля. Чалавек не мог быць адзіным прадстаўніком народа, дзеля таго каб гарантаваць росквіт нацыі. Адсюль і аўтэнтычнасць асабістасці – любы чалавек заслугоўваў павагі незалежна ад яго статусу. Не гвалту, не дыктатуры, не тыраніі.

Людзі ж будучыні, у адрозненне ад людзей старажытных, ужо прайшлі праз эру прагрэсу, таму разумелі свет лепей за сваіх папярэднікаў і трактавалі яго, так бы мовіць, у найнеймавернейшай форме.

Трэба было абраць сімвал.

сваей супольнасці яны абралі менавіта гумовую дубіну.

Вернемся ж ізноў на хвілінку да мінулых часоў.

У адной будыйскай легендзе казалася аб сыне, які забыўся аб прашэнні матулі прынесці ёй парэшткі святога і замест іх падабраў на вуліцы сабачую костку і падарыў яе мамцы як вялікую святыню. Маліцца да той косткі прыходзілі і сваякі, і суседзі, і ў рэшце рэшт костка пачала зіхцець і лекаваць хворых. Вера здольная на многае. І балубаўцы настолькі верылі і абагаўлялі свае дубінкі, што яны

ЛЮДЗІ Ж БУДУЧЫНІ, У АДРОЗНЕННЕ АД ЛЮДЗЕЙ СТАРАЖЫТНЫХ, УЖО ПРАЙШЛІ ПРАЗ ЭРУ ПРАГРЭСУ, ТАМУ РАЗУМЕЛІ СВЕТ ЛЕПЕЙ ЗА СВАІХ ПАПЯРЭДНІКАЎ І ТРАКТАВАЛІ ЯГО, ТАК БЫ МОВІЦЬ, У НАЙНЕЙМАВЕРНЕЙШАЙ ФОРМЕ.

з часам пачалі ажываць. Сапраўдны балубавец прысягаў сваёй дубіне ў вернасці і быў абавязаны з ёй ажаніцца. Пасля ад ажыўшых дубін нават пачалі нараджацца дзеці, праўда, выношвалі іх таты, але людзі будучага былі прызвычаяны да рознага, тым больш што дзеткі атрымоўваліся здаровымі, моцнымі, лёгка паддаваліся дрэсіроўцы і ўмелі пазнаваць людзей, таму на адсутнасць доўгатэрміновай памяці можна было не звяртаць увагі.

І вось тут усё стала значна складаней, бо, як высветлілася, Балуба адрозніваліся ад іншых сваёй унікальнай мнеманічнай сістэмай, сістэмай памяці, якая зусім не вязалася да будучага света. Нягледзячы на супраціў прагрэсу, ад камп'ютараў, якія выконвалі і функцыю захоўвання інфармацыі, ніхто адмаўляцца не збіраўся. Доўга сварыліся чальцы, нават гучалі прапановы цалкам змяніць тэматыку і пашукаць нечага лепшага. А калі дамоўленасці дасягнуць так і не атрымалася, балубаўцы пачалі бойку. На смерць.

Хтось біўся ў рукапаш, а хто і з выкарыстаннем розных прадметаў. Выпадкова ж выйгралі тыя, што мелі пры сабе гумовыя дубінкі, таму і сімвалам

Балубаўцы атрымалі свой патэнт, але што б на гэта сказалі людзі Балуба, ужо ніхто не даведаецца, бо там, у быдучым, рэгрэс даўным даўно вынішчыў усю аўтэнтыку.

Ды што казаць, дажывяце самі.

# ВОЛЬГА ПАЧКАЕВА

## КОЛЕРЫ ІМГНЕННЯ І ВЕЧНАСЦІ

Дзіўная рэч, у XXI стагоддзі колеры сталі надзвычай актуальнымі. Калісьці ў старадаўнія часы так ужо было, калі колер лічыўся сілай, сутнасцю, магічным сродкам і рытуальным атрыбутам. І вось, у век высокіх тэхналогій грамадства вярнулася ў той стан, калі логікі яшчэ не існавала, а эмоцыі і перажыванні кіравалі паводзінамі. У нашым грамадстве, як ні дзіўна, адбываецца падобнае. Хтосьці жыве «ашчушчэніямі», хтосьці пачуццямі, але эмоцыі заўважна пераважаюць і кіруюць учынкамі. Падобна, што беларусы здзівяць планету тым, што апынуліся раптам у будучыні? І насамрэч, штучны інтэлект у будучым будзе кіравацца логікай, вырашаць складаныя задачы, выпрацоўваць стратэгіі, але пачуцці застануцца за чалавекам.

Прычым тут колер? Як і ва ўсе часы, колер з’яўляецца знакам той ці іншай ідэі і дапамагае арыентавацца і гуртавацца пад тым ці іншым сцягам. Але колер – гэта не толькі знак, сэнс якога мы разумеем. На колер рэагуе чалавечы арганізм адпаведным пачуццём і перажываннем, нават калі сэнс нам невядомы. Спачатку – імгненная рэакцыя псіхікі, а потым разважанні. У гэтым праяўляецца адвечная глыбінная сіла колеру.

Кожны дзень мы бачым супрацьстаянне двух колеравых спалучэнняў: чырвонага з зялёным і чырвонага з белым. Чаму так сур’ёзна вядзецца «барацьба з ветракамі», а дакладней, са стужачкамі, зефіркамі і балончыкамі? Якія эмоцыі абуджаюць гэтыя пары колераў?

Чырвоны і зялёны – звычайныя колеры зялёнага лісця, кветак, спелай садавіны і ягад. Але ў прыродзе мы бачым іх у іншых прапорцыях: кропачкі чырвонага ў зялёным. Шмат чырвонага выклікае пачуццё перапоўненасці і празмернай актыўнасці. У спорце, бадай, сцяг з дзвюма трацінамі чырвонага і адной зялёнай будзе да месца. З пункту гледжання сімволікі варта занач ыць, што зялёны наогул не традыцыйны для Еўропы, зялёны – гэта сцяг прарока Магамета. Але вернемся да дзяржаўнай сімволікі. Калі адбываюцца якія-небудзь падзеі, сцягоў звычайна дэманструецца шмат. Але іх колеры не вельмі светлыя, у выніку перамежавання шматлікіх сцягоў, як і пры перамешванні фарбаў, атрымліваецца ўражанне ржава-карычневатага колеру. Часам зялёны колер на сцягу можна сустрэць наогул дзіўнага, светлага, амаль салатавага адцення, што трошкі асвятляе агульнае ўражанне, але, з іншага боку, робіць сцяг не зусім сур’ёзным.

